№ 18 (227) 2 траўня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ГОД БЫКАВА



*Польскі ПЭН-клюб мае вылучыць беларускага пісьменьніка на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі*

Усе ранейшыя размовы пра вылучэньне кандыдатуры Васіля Быкава на атрыманьне самай прэстыжнай літаратурнай прэміі сьвету былі неафіцыйнымі. Думка чытачоў ці крытыкаў, нават самых прызнаных, мала значыць для Нобэлеўскага камітэту. Згодна з традыцыяй, афіцыйных кандыдатаў могуць вылучаць толькі нацыянальныя ПЭН-клюбы — незалежныя асацыяцыі пісьменьнікаў.

Вылучыць кандыдатуру аўтара "Знаку бяды" і "Сьцяны" бярэцца сёлета польскі ПЭН-клюб. Афіцыйнае рашэньне пра гэта маюць прыняць у Варшаве ўлетку. Дзеля гэтага на Бацькаўшчыну мае прыехаць Чэслаў Мілаш, нобэлеўскі ляўрэат 1980 г. Цікава, ці далучацца да просьбы палякаў расейскія ды нямецкія пісьменьнікі.

Гэтая прэмія стала б прызнаньнем краіны і нацыі, якія сёньня ў сьвеце больш вядомыя хамствам і беззаконьнем Лукашэнкі, разваленай эканомікай і паталягічнай інтэграцыяй з Расеяй.

**Мікола**

# Гуртам бацькі не паб'еш

*"Кааліцыя пяцёх" мае сэнс, калі прэтэндэнты абавязуюцца зьняць свае кандыдатуры на карысьць аднаго, які назьбірае найбольш подпісаў*

**25 красавіка Уладзімер Ганчарык, Сямён Домаш, Павал Казлоўскі, Сяргей Калякін і Міхаіл Чыгір заявілі, што будуць каардынаваць дзеяньні падчас перадвыбарнай кампаніі. Заўтра яны маюць правесьці супольную прэс-канфэрэнцыю.**



С.Калякін | У.Ганчарык | П.Казлоўскі | М.Чыгір | С.Домаш

У сумеснай заяве "група кандыдатаў" выклала свае асноўныя задачы і прынцыпы: вывад краіны з зацяжнога крызысу, пад'ём нацыянальнай эканомікі на аснове распрацаванай супольнай праграмы, што прадугледжвае эфэктыўнае выкарыстаньне геапалітычнага становішча Беларусі, стварэньне спрыяльных умоваў для вытворчасьці, інвэстыцыяў, разьвіцьця ўсіх формаў уласнасьці. У дакумэнце гаворыцца, што перамога на прэзыдэнцкіх выбарах неабходная для «рэальнага павышэньня дабрабыту людзей, пераадоленьня беднасьці і галечы, надзейнай сацыяльнай абароны пэнсіянэраў, інвалідаў, чарнобыльцаў, навучэнцаў, дапамогі сям'і; забесьпячэньня правоў і свабодаў грамадзянаў; належнай барацьбы са злачыннасьцю; ліквідацыі чыноўніцкага самавольства і карупцыі, перасьледу іншадумцаў; рэабілітацыі незаконна асуджаных, устанаўленьня вінаватых у зьнікненьні людзей». Палітыкі абвесьцілі, што яны гатовыя ўмацаваць мясцовыя Саветы і органы самакіраваньня, што верне ўладу народу. У праграме блёку гаворыцца, што яе рэалізацыя прывядзе да разьвіцьця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Расеяй «у Саюзе дзьвюх сувэрэнных дзяржаваў», да ўсталяваньня добрых адносінаў з краінамі Эўропы і ўсяго сьвету, пераадоленьня міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

Пад гэткімі задачамі мог бы падпісацца і Лукашэнка. Такім чынам, можна лічыць, наша грамадзтва парадаксальным чынам наблізілася да дасягненьня нацыянальнага кампрамісу ў бачаньні прыярытэтаў свайго разьвіцьця. На паперы, прынамсі... Рэальныя ж дзеяньні новага прэзыдэнта — хто б ім ні стаў — будуць далёкімі ад "праграмных заяваў". Таму мы й будзем выбіраць аднаго з кандыдатаў не па ягоных словах, а па справах. Балазе кожны зь іх — і Домаш, і Казлоўскі, і Лукашэнка — справаў за жыцьцё зрабіў шмат.

Стварэньне "шырокай кааліцыі" было ідэяй, якую падтрымлівалі такія магутныя "суб'екты беларускае палітыкі", як Майкл Козак, пасол ЗША ў Беларусі, і Ганс-Георг Вік, пасол АБСЭ. Гэтая ідэя можа даць эфэкт, калі кандыдаты абавяжуцца зьняць свае кандыдатуры на карысьць аднаго — таго, хто назьбірае найбольшую колькасьць подпісаў выбарцаў, хто б ён ні быў. Гэта нялёгка: камуністу Калякіну прыйшлося б пагадзіцца з пэрспэктывай самаадсоўваньня на карысьць дзяржаўніка Домаша, і наадварот. Аднак гэта ўжо і было б уменьнем паставіць нацыянальныя інтарэсы над асабістымі і партыйнымі. Усе іншыя варыянты могуць прывесьці да непатрэбнай валтузьні. Калі "група кандыдатаў" застанецца друзлая і шматлікая, масавая сьвядомасьць альтэрнатывы Лукашэнку не зафіксуе.

**Барыс Тумар**

У інтэрвію Радыё Рацыя намесьнік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык заявіў, што не разумее палітыкаў "кааліцыі пяцёх", якія ўключылі ў сумесную заяву пункт пра разьвіцьцё "Саюзу Расеі й Беларусі". "Я лічу, што ніводзін з тых, хто падпісвае такі зварот, ня можа быць кандыдатам у прэзыдэнты, якога падтрымае партыя БНФ", — заявіў ён.

# АМЭРЫКА ГАТОВАЯ ВЯШЧАЦЬ НА БЕЛАРУСЬ ПА-НОВАМУ

Са старшынём Камітэту кіраўнікоў замежнага радыёвяшчаньня ЗША Маркам Натансонам гутарыць Сяргей Шупа



**Марк Натансон — адзін з найбуйнейшых дзеячоў кабэльнай тэлевізіі ў ЗША, удзельнік многіх мэдыйных праектаў, старшыня Камітэту кіраўнікоў замежнага радыёвяшчаньня ЗША (BBG). Камітэт кантралюе ўсё ўрадавае невaеннае міжнароднае вяшчаньне Злучаных Штатаў, а менавіта дзейнасьць пяці службаў: Голасу Амэрыкі, Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, Радыё і TV Марці, WORLDNET Тэлевізію, Радыё Свабодная Азія. Продкі М.Натансона жылі ў Баранавічах.**

**Сяргей Шупа: Сярод слухачоў Вашага радыё ва ўсіх кутках сьвету, напэўна, былі розныя вядомыя людзі...**

**Марк Натансон:** Вось прыклад, які нагадвае мне цяперашнюю сытуацыю ў Беларусі. Адно з наймацнейшых уражаньняў, якія я меў у канцы мінулага году, гэта калі Нэлсан Мандэла на прыватнай аўдыенцыі ў Злучаных Штатах падараваў мне самаробны радыёпрыймач.

Працяг на старонцы 4.

*тэма нумару*

# Расшыфраваны Кітаб



У паспалітай сьвядомасьці Беларусь — чыста хрысьціянскі край. Ды побач зь Беларусяй Уніяцкай, Праваслаўнай і Каталіцкай заўжды існавала Мусульманская Беларусь. Мусульманскія мігранты стагодзьдзямі ўлівaліся ў беларускае насельніцтва, палохалі яго сваімі норавамі і лютасьцю (як цяперашнія "хачыкі"), прымалі ягоныя мову і культуру (як цяперашнія), жаніліся зь беларускамі, захоўвалі веру і зьвязаныя зь ёй абрады (як цяперашнія). Вялізны корпус беларускамоўных тэкстаў, запісаных арабскай графікай, ляжыць пластом у бібліятэках і прыватных архівах: амаль няма спэцыялістаў, здольных расчытаць іх. Нават сярод сёньняшніх беларускіх татараў.

За расшыфроўку Кітабаў узяліся Сяргей Богдан ды Вячаслаў Гушча, менскія студэнты, што спэцыялізуюцца ўва ўсходніх мовах. Яшчэ дзесяць гадоў таму гэткае было немагчыма, бо аддзяленьні арыенталістыкі адкрыліся ў менскіх унівэрсытэтах толькі пасьля заваёвы Беларусяй незалежнасьці.

**Пра Мусульманскую Беларусь, Аліф і Расшыфраваны Кітаб — на старонках 6–8.**

# Нязлосны дзень

**У Менску на маёўку ў парк Горкага сабралася з тысячу чалавек пад самымі стракатымі сьцягамі й лёзунгамі. Сярод іх былі й кандыдаты ў прэзыдэнты Уладзімер Ганчарык, Павал Казлоўскі й Сяргей Калякін.**

Міліцыянты проста на маёўцы паабяцалі прыцягнуць Калякіна да адміністрацыйнай адказнасьці за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця.

Працяг на старонцы 3.

# *Проза летніх дарог*

З гэтага нумару цэлае лета ў "Нашай Ніве" штотыдзень — новае апавяданьне. У далёкія і блізкія падарожжы бярэце з сабой "Нашу Ніву" — і чытайце.

У гэтым нумары — апавяданьне Адама Глёбуса "Менскія вар'яты". **Старонка 10.**



## З усёй краіны



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Альшаны (Століншчына).
У адзін *Volkswagen* улазіць 8 мяхоў з гуркамі

# 12% беларусаў працуе толькі на сябе

**Гарадзенская міліцыя выкрыла падпольную майстэрню па вытворчасьці зброі.**

Там знайшлі два самаробныя пісталеты, абрэз, патроны да рэвальвэра й аўтамата Калашнікава. Вытворчасьцю займаўся 54-гадовы беспрацоўны, токар па спэцыяльнасьці. Такіх майстроў, што зарабляюць усім, чым хочаш, — у краіне нямала.

На Інтэрнэт-сайце беларускіх прафсаюзаў *www.praca.by* прыводзяцца такія зьвесткі: з 9 990 200 жыхароў Беларусі працаздольных — 5 928 000 (59,3%). Эканамічна актыўнае насельніцтва, то бок тыя, хто працуе ці шукае працу — 4 542 000 (51%), зь іх 104 000 (2,3%) — зарэгістраваныя на біржы працы беспрацоўныя. А вось эканамічна неактыўнае насельніцтва — тыя, хто можа працаваць, але не працуе й працы не шукае, складае 1 386 000 чалавек. Без навучэнцаў працаздольнага веку (530 000) і цяжарных жанчын (150 000) атрымліваецца 706 000 (амаль 12% ад працаздольнага насельніцтва), якія нідзе не працуюць, ня вучацца, не сядзяць зь дзецьмі й не шукаюць працы! Большасьць з гэтых людзей займаюцца працай у "шэрым сэктары" эканомікі або проста крымінальшчынай.

**Б.Т.**

## Навіны за тыдзень



На акцыі Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў "Падымі сабе стыпэндыю"

### Прапаў "Малыш"

**Дэфіцыт дзіцячага харчаваньня ўжо каторы тыдзень адчуваюць астравецкія маці.** Яно зьнікла зь дзяржаўных крамаў. Днямі, праўда, абяцаюць завезьці 160 кг з Ваўкавыску і разьмеркаваць па рэцэптах. Вось і нарадзі паспрабуй дзіця — карміць няма чым.

### Бацька, грошы!

**Калі ўся краіна жыве абяцанкамі пра 100-даляравы заробак, то астравецкія настаўнікі глядзяць на гэта больш рэалістычна.** Бо нават той мінімальны заробак улады ня ў стане выплаціць своечасова. Перад мінулымі выходнымі настаўнікі, і то ня ўсе, атрымалі толькі аванс за сакавік. З астатнім папрасілі пачакаць. І як тут вучыць добраму, сьветламу...

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Аўталаўкай выгадней

**У красавіку Крычаўскі райсавет прыняў сэнсацыйную пастанову.** Цяпер кожны прадпрымальнік, каб мець права гандляваць, павінен плаціць 50% мінімалкі за адзін працоўны дзень. Так, калі крама ці шапік адчыненыя ўсе 30 дзён у месяц, гаспадару давядзецца выкласьці 85500 рублёў. Раней гэткае права каштавала 7 мінімалак у месяц. Гандляваць з аўтамашынаў выгадней — плаціш толькі 10% ад мінімальнага заробку. А замежнаму грамадзяніну, які пажадае адчыніць у Крычаве краму, гэта будзе каштаваць толькі... тры мін. заробкі. Таму некаторыя тутэйшыя гандляры шукаюць магчымасьць атрымаць расейскія пашпарты. Ні дзяржаўныя крамы, ні крамы любой іншай формы ўласнасьці новым зборам не абкладаюцца.

### Аброк

**Кожны крычаўскі калгасьнік, у якога маецца карова, мусіць прадаць дзяржаве ня менш за 2000 л малака ў год.** Цэны на малако нізкія, выплаты ўвесь час затрымліваюць. А здаваць малако людзі мусяць, інакш ім сена не дадуць.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## Спартовы тыдзень

### *Прадулі*

**Беларускія хакеісты будуць змагацца за 13—16 месцы на чэмпіянаце сьвету**

Пасьля паразы ад чэхаў 1:5 нашы прайгралі і швайцарцам 2:5 ды пазбавіліся ўсіх шанцаў на выхад з групы. Дакладней, з групы беларусы выйдуць, аднак гуляць будуць за права захаваньня прапіскі ў вышэйшым хакейным дывізіёне.

Некалькі месяцаў таму беларусы зь цяжкасьцю пераадолелі алімпійскую кваліфікацыю, цяпер — «пракол» у Нямеччыне. У чым рэч? Сярэдні век беларускіх гульцоў — амаль 29 гадоў, 11-ці гульцам ідзе ўжо чацьверты дзясятак. Аднак гэтыя хакеісты, нягледзячы на век, відаць, сапраўды зьяўляюцца цяпер найлепшымі, бо ня маюць рэальнай канкурэнцыі з боку маладых (Кальцоў ды Калюжны — шчасьлівыя выняткі).

Прыходзіць час, калі стары збан больш ня можа насіць ваду, а новы яшчэ ня зьлеплены. Малафееў у футболе апошнім часам добра паказвае, што, нават маючы гульцоў на два склады, трэба абкатваць рэзэрвы, якія заўтра стануць асноўнай сілай. Мусіць быць трывалая пераемнасьць паміж зборнымі — юніёрскай, моладзевай ды нацыянальнай. Інакш будзем ізноў дуць швайцарцам.

Зрабіцца самастойнымі суб'ектамі гаспадараньня хакейным клюбам перашкаджае дзяржава, якая таксама ня мае грошай, але тым ня менш хоча ўсё кантраляваць. Так, як было ў СССР. Але ў Саюзу былі нафтадаляры, у Беларусі іх няма. Можна занядбаць вялікі сад, але сабраць сякі-такі ўраджай. А можна даглядаць некалькі яблыняў з тым жа вынікам. Пакуль мы гэтага не зразумеем — будзем бязь яблыкаў.

У той жа дзень, калі беларусы прайгралі швайцарцам (на трыбунах было заўважана колькі нашых заўзятараў), немаладая зборная Латвіі з падтрымкай некалькіх тысячаў свіх заўзятараў перамагла амэрыканцаў 2:0.

**Богусь Біятляновак**

## Пацярпелыя за Беларусь

18 красавіка ў Бабруйску на канцэрце гурту *«Deviation»* за маханьне бел-чырвона-белым сьцягам затрымалі маладафронтаўца Андруся Дундукова. У ноч на 26 красавіка за расклейваньне ўлётак у Менску затрымоўвалі Генадзя Банкевіча, мужа і жонку Рабянковых. У Віцебску на 10 ночаў пасадзілі Юрася Карпава ды Рамана Салаўяна за акцыю пратэсту, зладжаную 26 красавіка. Усе апошнія чацьвёра – сябры КХП-БНФ. У Салігорску падчас пікету пратэсту з нагоды ўгодкаў Чарнобылю затрымалі Анатоля Лобана і Сяргея Суліма. 27 красавіка ў Магілёве за раздачу бюлетэню сваёй арганізацыі былі затрыманыя маладафронтаўцы Марына Кузьміна, Ірына Царова, Андрэй Хоміч. У Горадні ўчора на першатравеньскім мітынгу затрымалі лідэра тамтэйшага Маладога Фронту Вадзіма Саранчукова, Зьмітра Іваноўскага з БНФ, кіраўніка аддзелу Моладзі АГП Уладзімера Чырвоненку, Сьвятлану Нех з Маладой Грамады, Андрэя Сьцяпуру з МФ, кіраўніка аддзелу МГ Валянціна Аскірку, кіраўніка аддзелу Народнай Грамады Міхала Патрэбу, а таксама Міхася Карневіча, Паўла Мажэйку, Валер'я Кісяля, Дзяніса Івашына, Дарку Яскевіч, Фелікса Гавіна, Міхася Айрапецяна, Андрэя Мялешку, Вэраніку Быстрыцкую ды шчэ тры чалавекі. У Берасьці на першатравеньскім шэсьці за раздачу газэты "Рабочы" арыштавалі Уладзімера Вялічкіна і Кірылу Данька.

### Аміяк для кракадзіла

**Уцечка аміяку прывяла да гібелі жыўнасьці і багавіньня ў стаўку Гарадзенскага заапарку.** 25 красавіка атрута трапіла ў рачулку Гараднічанку з прадпрыемства «Гандальмаш». Эколягі спынілі працэс гальванікі, які і стаўся прычынай аварыі.

Канцэнтрацыя аміяку ў рэчцы была вельмі малая, таму ніякай шкоды Нёману, прытокам якой зьяўляецца Гараднічанка, ад гэтага ня будзе. Дырэктар Гарадзенскага заапарку Цэліна Пагерыла кажа, што на сёньня ваду ў заапарку пачысьцілі; птушкі, якія выжылі пасьля аміячных ваннаў, адчуваюць сябе нармальна.

### Мара Панікоўскага

**Супрацоўнікі Гомельскага рэгіянальнага агенцтва эканамічнага разьвіцьця бясплатна раздалі жыхарам Сьвяцілавічаў (Веткаўскі раён) 300 гусяў.** Акцыя праходзіла ў рамках праекту агенцтва «Устойлівае разьвіцьцё пасёлку Сьвяцілавічы», які ажыцьцяўляецца пры падтрымцы пасольства Вялікай Брытаніі. Сьвяцілавічы знаходзяцца ў зоне высокае радыяцыі. Жыхары пасёлку (600 сем'яў), працуюць у калгасе, зарабляюць мізэрна, таму харчуюцца радыяцыйнымі ягадамі, грыбамі і дзічынай.

Згодна з ідэяй праекту, сем'і павінны пачаць гадаваць гусі, каб ужываць у ежу хаця б чыстае ад радыяцыі мяса. Пакуль агенцтва адабрала для працы ў праекце 17 сем'яў — найбольш прадпрымальных і актыўных жыхароў. Канчатковая мэта праекту — стварыць у Сьвяцілавічах кааператыў па разьвядзеньні гусяў.

**Паводле БелаПАН**

## З Горадні

### Канскія ільвы й конскія яблыкі

**Расейскі рэжысэр Дз.Астрахан здымаў у Горадні сцэны для фільму аб генацыдзе габрэяў «Бабін Яр»**

Фільм робіцца на экспарт і, відаць, будзе агучваўца на ангельскай мове. У "масоўках" удзельнічала з тысячу гарадзенцаў. Ролю нямецкіх жаўнераў выконвалі 300 салдатаў унутраных войскаў. Напэўна, дзеля большага падабенства да гета ўначы невядомыя размалявалі жыдоўскімі зоркамі сьцены сядзібы БНФ, якая знаходзілася ў раёне здымак. Ня менш адыёзна выглядалі сьляды, пакінутыя расейскай кінагрупай. Два дні цэнтр гораду сьмярдзеў экскрэмэнтамі: усе вуліцы, на якіх здымалі ўкраінскіх габрэяў і фашыстаў, былі засыпаны конскімі яблыкамі. Спатрэбілася гэтага дабра, бадай, ня менш за тону.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

## Дзе варта быць

### *Арлоў і Бартосік*

**3 траўня а 19.30 у Горадні ў гарадзкім Доме культуры адбудзецца прэзэнтацыя кнігі Уладзімера Арлова** «Адкуль наш род» з удзелам барда Зьмітра Бартосіка.

### *"Палац" і "Айша"*

**5 траўня ў канцэртнай залі «Горадня» а 18-й адбудзецца канцэрт гурту «Палац».** Распачынаць праграму будзе гарадзенскі гурт «Айша». Кошт квітка 3500 руб.

### КАМВОЛЬНІЦЫ МІТЫНГАВАЛІ

**Стыхійны мітынг працаўніц камвольнага камбінату адбыўся 27 красавіка ў Менску.** 400 жанчын перакрылі рух на вул.Маякоўскага. Яны патрабавалі своечасовай выплаты заробку. Свайго дабіліся і пакуль супакоіліся.

### МАТАРЫЗАВАНЫЯ ЛІЦЬВІНЫ

**У Жодзіне кааліцыя «Маладыя Ліцьвіны» правяла байкерскі прабег,** прысьвечаны 15-годзьдзю Чарнобыльскай катастрофы, у якім узялі ўдзел 10 матацыклістаў. Удзельнікі наладзілі ў розных месцах 3 пікеты, на якіх раздавалі выданьні на чарнобыльскую тэматыку. Міліцыянты лавілі моладзь, але не зхвалілі, толькі КДБэшнікі з камэрай здымалі байкераў для сваіх архіваў.

### НА ПАДУШЦЫ ДОБРА ЕХАЦЬ

**«Сьвірская суднаверф» (пад Пецярбургам) пабудавала ўжо тры катэры на паветранай падушцы клясы «Гепард»** для беларускіх памежнікаў. Усяго, згодна з кантрактам, расейцы пабудуюць 5 катэраў, кожны зь якіх каштуе каля 20 тыс. даляраў, для аховы рэчак на мяжы з Украінай і Латвіяй. Да месца прызначэньня катэры не паплывуць, а, відаць, паедуць чыгункай.

**Паводле БелаПАН**

## Навіны гаспадарскія

За студзень-сакавік зьнізіліся паказьнікі прамысловай вытворчасьці, вырасла колькасьць стратных прадпрыемстваў, а падаткавікі не дабралі ў бюджэт краіны 80% заплянаваных грошай. Таму няма адкуль узяць сродкі на патрэбы сацыяльнай сфэры (дзеля браку фінансаваньня ўжо скарачаюць нормы харчаваньня ў некаторых дамох-інтэрнатах). На мінулым тыдні Ярмошын прызнаў: калі ў хуткім часе сытуацыя ў гаспадарцы ня выправіцца, дасягнуць сярэдняга 100-даляравага заробку можна будзе толькі з дапамогай "друкаркі".

# Цэны рэагуюць млява

Кіраўнік Нацбанку П.Пракаповіч ня страчвае спадзеваў на інвэстыцыі МВФ, які зьбіраецца правесьці маніторынгавую ацэнку эканомікі і па ейных выніках даць альбо ня даць нам крэдыты. Але й тут не абышлося безь непаразуменьняў: насуперак дамоўленасьцям з МВФ дзяржава загадала-ткі камэрцыйным банкам выдзеліць пазыкі на пасяўную. На другую папярэднюю ўмову — скасаваць кантроль за цэнамі — Лукашэнка адрэагаваў забаронай павялічваць іх больш чым на 0,8–1% у месяц. Цэны, аднак, на забарону адрэагавалі млява і за першыя тры тыдні красавіка вырасьлі на 3%.

У такіх варунках урад рабіў стаўку на дапамогу Расеі ў рамках "рублёвай зоны". Але і "ўсходні кірунак" у чарговы раз дае збоі. Гучны праект новага расейскага газаправоду праз Беларусь у Заходнюю Эўропу, відаць, застанецца толькі на паперы. "Газпром" распрацаваў новы плян — класьці трубы па дне Балтыйскага мора. Цяпер робіцца тэхніча-фінансавае абгрунтаваньне такога праекту. Калі ён будзе ўхвалены, разьлікі беларускіх уладаў хоць на якую карысьць ад "сяброўства" з Расеяй падмануцца.

**Сяржук Іваноўскі**

# Навошта Лукашэнку зноў лезьці ў прэзыдэнты?

**Навошта Лукашэнку ізноў абірацца прэзыдэнтам? Наўрад ці ён сам здольны ўцямна адказаць на гэтае пытаньне, не хаваючыся за звыклую экспрэсіўную рыторыку. А што думае наконт гэтага народ, які «бацька» зьбіраецца ашчасьлівіць і ўсынавіць на чарговыя пяць год? Паслухаць vox populi я падаўся на галоўны праспэкт пад галоўны ўнівэрсам.**



Сур'ёзны мужчына ў кепцы адказаў сур'ёзна:

*«Адказнасьці баіцца за тое, што нарабіў"*.

Вясёлая прыгажуня пад руку з мурынам засьмяялася:

*«Ну, каб умацаваць сваю ўладу яшчэ болей»*.

Немаладая інтэлігентная кабета мяркуе:

*«Для задавальненьня ўласных амбіцыяў»*.

А вось думка актора «Вольнай сцэны» Анатоля Ката:

*«Яму падабаецца гэткае жыцьцё. Ён жа разумее, што, калі пойдзе з пасады, будзе жыць горш"*.

Пацаны з голенымі галовамі думалі нядоўга:

*«Таму, што ён калхозьнік»*.

Іх тэзу разьвілі тры дзяўчынкі-тынэйджэркі:

*«Ён, як любы калхозьнік, хоча ўлады. У чым кайф улады? Шмат грошай, кармушка добрая. Можна рабіць што хочаш. Вяршыць суд над людзьмі. Такімі, як Завадскі, Захаранка, Ганчар»*.

Парадаваўшыся за палітычную падкаванасьць маладога пакаленьня, я скіраваўся да прыгожай маці з падлеткам-сынам. Сын пахваліўся, што чытае свабодную прэсу й слухае Радыё «Свабода», а патаемныя жаданьні ППРБ зьвёў да грошай:

*«Каб паболей іх яшчэ сабе падгрэбсьці»*.

Маці глядзела глыбей:

*«Улада — гэта самасьцьвярджэньне. Калі ён ня будзе прэзыдэнтам, дзе ён будзе? Якая ў яго альтэрнатыва?»*.

*«Хоча яшчэ адзін тэрмін эксплюатаваць наш народ»*, — адказаў паддаты пралетар.

Выпускнікі школы падышлі да мяне самі:

*«Любому чалавеку, які быў ля ўлады, хочацца яшчэ ўлады. Гэта як наркотык. Таму ён і ідзе»*.

*«Лепей, каб быў ён, чым нейкі іншы, незнаёмы. Яго мы ведаем. Мы ведаем, што робіць Лукашэнка ў нас. На яго думку, гэта правільна»*. Гэта быў першы голас «за». Ад чалавека, які пакуль, на шчасьце, ня мае выбарчага права, але без праблемаў гаворыць пабеларуску. Шчасьлівую маладую сям'ю пытаньне не зьбянтэжыла й не пасварыла. Муж: «*Бо яму няма куды больш пайсьці*». Жонка: «*А мне ён нравіцца. І ён везьдзе прыгадзіцца*».

Наступным быў клерк з сотавікам і ў дарагіх акулярах:

*«Я вельмі сумняюся ў ягоным псыхічным здароўі, таму ня бачу рацыянальных апраўданьняў для ягоных дзеяньняў. Гэта можа быць нейкая маніякальная апантанасьць»*.

Затым я адарваў ад піва маладзёна ў джынсе: «*Спадабалася, відаць яму каля кармушкі. Хоча банальна зарабіць бабак*».

Спартовы камэнтатар з БТ Уладзімер Навіцкі сышоў ад адказу, па-джэнтльмэнску даўшы пас сваёй даме: «*Усю праўду ведае толькі жанчына*». Тая не падвяла кавалера:

*«Лукашэнка ўпэўнены ў сваёй праваце»*.

Пры канцы мне трапілася парачка закаханых. Ён:

*«Я ня думаю, што гэты чалавек хоча, каб беларускі народ разьвіваўся, зарабляў грошы... Нейкія свае ў яго меркантыльныя рэчы, асабістыя амбіцыі»*.

Яна:

*«Жаданьне ўлады. І ён слаба думае аб сваім народзе. А больш аб тым, як давесьці, што ён нешта можа. І зробіць ён усё роўна па-свойму»*.

Калі сінтэзаваць усе адказы ў адзін, атрымаецца наступнае: маніякальны калхозьнік, які баіцца адказнасьці й якому няма куды падацца, марыць яшчэ больш пашырыць сваю ўладу, каб эксплюатаваць беларускі народ і набіваць уласныя кішэні грашыма. І пры гэтым упэўнены ў сваёй праваце. Не кандыдат у прэзыдэнты, а пэрсанаж страшнай казкі. Але па вясёлых тварах рэспандэнтаў можна зразумець, што ім гэтая казка пра злога караля яшчэ ня дужа надакучыла.

**З.Б.**

# Нязлосны дзень

Працяг са старонкі 1.

200 камуністаў цераз плошчу Незалежнасьці прайшлі да помніка Леніну і ўсклалі кветкі. На кароткім мітынгу ў парку выступіў У.Ганчарык з заклікам зьмяніць эканамічную палітыку дзяржавы.

**У Гомелі,** як паведамляе Радыё Свабода, на "афіцыйнай" маёўцы некалькі рабочых узьнялі перад трыбунай вэртыкальшчыкаў плякаты антыўрадавага зьместу. Іван Адаменка дастаў з торбы плякат: «Дамо Сашы 100 даляраў, каб не перашкаджаў зарабляць нам болей», Анатоль Паплаўны — транспарант з каляровым фатаздымкам Аляксандра Лукашэнкі, вакол якога вянком налепленыя тысячныя купюры старога ўзору з подпісам: «Уладу — мне, зямлю — дырэктарам саўгасаў, галечу — рабочым, прыгон — сялянам, падачкі — бюджэтнікам, права на працу бясплатна, права на бізнэс за грошы, хто ня згодны — у турму. Галасуйце за мяне, атрымаеце да канца стагодзьдзя па 100 даляраў». Крыху далей карэспандэнт Радыё Свабода заўважыў яшчэ два падобныя транспаранты: «Цэнам, як у сьвеце, — заробкі, як у сьвеце» і «Чыкагскія рабочыя выйшлі на дэманстрацыю адзін раз і жывуць добра, а мы?»

**У Бэрліне** каля 6000 левакоў пабудавалі барыкады ўва ўсходніх прыгарадах. Аднак бойкі з паліцыяй мелі толькі лякальны характар, у адрозьненьне ад мінулага году. **У Лёндане** некалькі тысячаў дэманстрантаў левых перакананьняў ладзілі крывавыя бойкі з паліцыяй на *Oxford Street*. **Тысячы іранскіх рабочых** каля парлямэнту краіны пратэставалі супраць беспрацоўя і наплыву аўганскіх і ірацкіх імігрантаў. **У Карачы** ў Пакістане дэманстранты з дэмакратычных партыяў патрабавалі адстаўкі вайсковага ўраду. Паліцыя разагнала іх, параніўшы з паўсотні чалавек. **У Расеі** на маёўкі выйшла аж 1,5 мільёны людзей камуністычных перакананьняў. **У Ерэване** 10 тыс. чалавек выйшлі на мітынг, патрабуючы далучэньня Арменіі да Саюзу Расеі й Беларусі. **У Сыднэі і Мэльбурне** маніфэстанты з чырвонымі сьцягамі блякавалі ўваходы на біржы. Яны трымалі плякаты: «Бясплатная адукацыя», «За патрэбы людзей, проці сквапнасьці карпарацыяў».

Гэткія мітынгі і дэманстрацыі рабочых і людзей сацыялістычных перакананьняў прайшлі ўва ўсім сьвеце.

**У Осла** адзін зь мітынгоўцаў шпурнуў торт у твар міністру замежных справаў Нарвэгіі Б'ёрну Яглянду. Але лідэр Рабочае партыі абцёрся і працягнуў шлях разам з калёнаю. Бо 1 траўня — дзень, у які па-сапраўднаму не злуюць, хіба што жартам.

Толькі **на Філіпінах** узьняўся цэлы народны бунт у абарону былога прэзыдэнта краіны, актора Джозэфа Эстрады, адхіленага ад улады з прычыны абвінавачаньня ў карупцыі. Дэманстранты паспрабавалі ўзяць штурмам прэзыдэнцкі палац. Паліцыя, разганяючы штурмавікоў, забіла тры чалавекі. Каталіцкая царква арганізуе людзей на абарону законных уладаў краіны.

**Мікола**




IREX-PROMEDIA



IREX-PROMEDIA

**Прыйшоў на маёўку і сп.Мясьніковіч. Ён павітаўся з генэралам Казлоўскім і меў гутарку зь лідэрам сацыял-дэмакратаў М.Статкевічам, а тады пайшоў гуляць у парку.**

# Эліта ня хоча Лукашэнкі

**86,8% кіраўнікоў прадпрыемстваў, бізнэсоўцаў, палітолягаў ня хочуць бачыць Лукашэнку прэзыдэнтам яшчэ на адзін тэрмін.**

Такія вынікі апытаньня Нацыянальнага Інстытуту Сацыяльна-Эканамічных і Палітычных Дасьледаваньняў.

Сярод магчымых кандыдатаў абазначылася тройка лідэраў: Домаш — 22,1%, Чыгір — 20,6% і Ганчарык — 13,2%. Прычым прадстаўнікі дзяржструктураў хутчэй гатовыя прагаласаваць за Домаша, чым за іншых, а прадстаўнікі недзяржаўных прадпрыемстваў аддаюць перавагу М.Чыгіру.

Апроч гэтых імёнаў, апытаныя называлі А.Бухвостава, У.Лявонава, М.Лявонава, А.Дабравольскага, А.Ярашука, А.Лябедзьку, А.Трухановіча, М.Крывамаза, М.Пастухова ды некалькіх партыйных лідэраў.

**Б.Т.**

## Апытаньне "НН"

**За каго Вы прагаласавалі б на прэзыдэнцкіх выбарах?**

______________________________

**Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога Вы прагаласавалі б?**

______________________________

**За якую партыю Вы прагаласавалі б на парлямэнцкіх выбарах?**

______________________________

**Калі б зараз стварылася новая аб'яднаная кааліцыя апазыцыі, як яна, па-Вашаму, мусіць называцца?**

______________________________

Выражце гэты бюлетэнь і дашлеце ў рэдакцыю "НН":
220050 Менск а\с 537 "Апытаньне "НН".
E-mail: nn@irex.minsk.by

# ВЫНІКІ ГАЛАСАВАНЬНЯ ЧЫТАЧОЎ «НН» НА СЁНЬНЯ

**1) За каго б Вы прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?**

Сямён Домаш **12**
Зянон Пазьняк **10**
Вінцук Вячорка **2**
Аляксандар Дабравольскі **2**
Аляксандар Лукашэнка **2**
Станіслаў Багданкевіч **1**
Павал Казлоўскі **1**
Пятро Краўчанка **1**

Многія чытачы называюць імёны Васіля Быкава, Івонкі Сурвіллы, Ніла Гілевіча. Паколькі гэтыя людзі – не палітыкі, колькасьці пададзеных за іх галасоў мы не называем.

**2) Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога вы прагаласавалі б?**

"Беларусь – для беларусаў!" **4**
"Беларусь – у Эўропу!" **3**
"Нармальны прэзыдэнт" **2**
"Незалежная Беларусь" **2**
"За вольную Беларусь!" **2**
"Радзіма і Свабода!", "Няма лепш, як Домаш", "Добры прэзыдэнт", "Жыць будзем лепш", "Спакойная сіла", "Вядома ж, Домаш", "Дэмакратыя, Эўропа, незалежнасьць", "Дабрабыт людзей свабодных", "Не" – хлусьні і імпэрыі", "Расея – гаўно!", "Незалежнасьць, рэформы, добрасуседзтва", "Адраджэньне Беларусі як нацыі", "Адраджэньне, правапарадак, дабрабыт", "За Бацьку!", "За эканамічныя рэформы без прыцясьненьня найбяднейшых слаёў насельніцтва", *"Vincetore"*, "Свабода і незалежнасьць", "Беларусь – свабодная дэмакратычная дзяржава", "Далоў рэжым дыктатуры!", "Адродзім веліч нацыі беларускай", "Беларусь – краіна магчымасьцяў", "Адраджэньне Незалежнай Беларусі", "Слава нацыі! Сьмерць ворагам!", "Незалежнасьць, дэмакратыя, дабрабыт", "Прэч маскоўскіх акупантаў!", "Мір і спакой", "Мы не дамо ім панаваць!" – усе па **1**.

# Палякі дабіваюцца праўды

**Вестка, што нядаўна ў Віцебску падчас пракладкі кабэлю ля будынку КДБ знайшлі масавыя пахаваньні, выклікала ня толькі грамадзкую зацікаўленасьць у Польшчы, але й рэакцыю з боку ўладаў.**

У Варшаве не без падставаў мяркуюць, што сярод ахвяраў беларускага НКВД могуць быць польскія грамадзяне: афіцэры, чыноўнікі, інтэлігенты, ксяндзы, арыштаваныя ў 1939—1941 г.

Паводле зьвестак польскіх арганізацыяў, што зьбіралі інфармацыю на гэтую тэму, у тым ліку Рады Абароны Памяці пра Барацьбу ды Пакуты, пад тысячу польскіх афіцэраў, арыштаваных энкавэдыстамі, загінула ў Беларусі ўзімку 1939—1940 г., яшчэ да таго, як чатыры тысячы іх таварышаў спаткалі сваю сьмерць у Катыні. Гаворка ідзе ня толькі пра Віцебск. *"Gazeta Wyborcza"* прыводзіць сьведчаньне маладзэнца Станіслава Шмуглеўскага, што працаваў перад пачаткам вайны ў Асінторфе ля Воршы, скуль вазілі паліва для электрастанцыі БелГРЭС. Паводле ягоных словаў, узімку 1939—1940 г. туды на працу прыгналі польскіх афіцэраў, апранутых у летнія мундзіры. Шмат хто зь іх памёр, рэшту ў першыя дні вайны сьпехам вывезьлі ў бок Смаленску.

Верагоднасьць гэтай інфармацыі ў гутарцы з польскімі журналістамі пацьвердзіў аўтар "НН", гісторык Ігар Кузьняцоў, які займаецца гісторыяй сталінскіх рэпрэсіяў. Ён мяркуе, што палякаў стралялі і ў Курапатах, і ў Лошыцы. Вэрсію, што і ў Віцебску, і ў Асінторфе спачываюць парэшткі замардаваных НКВД палякаў, пацьвярджаюць і ўспаміны Юркі



Віцьбіча, які сустрэў вайну ў Віцебску. Ён піша, што ў ліпені 1941 г. перад сыходам з гораду энкавэдысты пазабівалі вязьняў віцебскай турмы.

Консульства Польшчы ў Менску зьвярнулася па адпаведную інфармацыю ў Міністэрства абароны Беларусі, бо спэцыяльны пошукавы аддзел гэтага міністэрства ў складзе 58-га батальёну беларускага войска займаецца эксгумацыяй парэшткаў з гэткіх пахаваньняў.

Палякі вельмі пільна сочаць за пытаньнямі ўстанаўленьня месцаў гібелі сваіх суайчыньнікаў у гады вайны. Уся інфармацыя сьцякаецца ў нядаўна арганізаваны Інстытут Нацыянальнае Памяці і аналізуецца там. Кіраўнік ягонае сьледчае ўправы прафэсар Вітальд Кулеша кажа, што яшчэ ў 90-х Камісія па дасьледаваньні злачынстваў супраць польскага народу, што тады існавала, перадала беларускім уладам матэрыялы шасьці сьледчых справаў пра злачынствы, зьдзейсьненыя ў Вялейцы, Ашмяне, Беразьвеччы. Адказу палякі так і не дачакаліся. Паводле словаў праф.Кулешы, калі сьведка падзеяў у Асінторфе пацьвердзіць свае паказаньні афіцыйна, Інстытут выдасьць пастанову аб пачатку сьледзтва.

Вядомы польскі гісторык, аўтар кнігі „Забойства ў Катыні" Енджэй Тухольскі сьцьвярджае, што супрацоўнічаць зь Беларусяй пры расьсьледаваньні гэтай праблемы найцяжэй. Калі Расея ды Ўкраіна перадалі польскаму боку адпаведныя матэрыялы, дык Беларусь упарта ня йдзе на супрацоўніцтва. Між тым, польскія спэцыялісты думаюць, што менавіта ў гэтак званым "беларускім сьпісе" могуць знаходзіцца імёны недзе 3800 грамадзянаў Польшчы, закатаваных паводле распараджэньня беларускага аддзелу НКВД, як яны мяркуюць, згодна з дэкрэтам ад 5 сакавіка 1940 г. Але дакумэнтаў, якія пацьвярджалі б гэта, няма, і знайшоўся пакуль толькі адзін сьведка.

Анджэй Пшэвозьнік, генэральны сакратар Рады Абароны Памяці пра Барацьбу ды Пакуты, заявіў, што трэба зьвярнуцца да беларускіх уладаў з просьбай пра агляд месцаў трагічных падзеяў. Дакладную інфармацыю могуць даць толькі вынікі эксгумацыі.

**Сямён Букчын, Варшава**



АЛЯКСАНДАР ЛУКАШУК

Сяргей Шупа й Марк Натансон

# АМЭРЫКА ГАТОВАЯ ВЯШЧАЦЬ

Працяг са старонкі 1.

Гэта была дакладная копія таго прыймача, зь якога ён у турме, дзе правёў 20 гадоў, падпольна слухаў "Голас Амэрыкі" і *BBC*. Тое слуханьне жывіла яго надзеяй, што сьвет чуе ягоныя заклікі, ягоны голас і галасы ягоных паплечнікаў. Паўднёваафрыканскі ўрад тады татальна цэнзураваў усю інфармацыю, што трапляла да зьняволеных. Цікава, ці зьняволеныя ў Беларусі маюць магчымасьць слухаць замежнае радыё ў турме?

**С.Ш.: Палітвязень Уладзімер Кудзінаў упершыню даведаўся пра тое, што яго вызваляюць, калі ляжаў у турэмным шпіталі і выпадкова пачуў перадачу Радыё Свабода.**

**М.Н.:** Гэтая гісторыя, пра якую я таксама чуў, служыць для мяне поўным апраўданьнем усіх тых сродкаў, якія мы трацім на міжнароднае радыёвяшчаньне. Калі хаця б адна асоба можа пачуць ад нас пра сваё выратаваньне...

**С.Ш.: Як гэта ні сумна, для Беларусі замежнае радыёвяшчаньне і сёньня, у XXI ст. мае вялікае значэньне. Якое месца займае вяшчаньне Радыё Свабода на Беларусь у сыстэме прыярытэтаў Камітэту?**

**М.Н.:** Радыё Свабода для Беларусі — вельмі важны прыярытэт. Звычайна мы дапамагаем працэсу пабудовы дэмакратыі, але ў гэтым выпадку мы вымушаныя рэагаваць на сытуацыю, калі няма ніякай свабоды слова або свабода слова вельмі кволая і ёю маніпулююць улады.

**С.Ш.: Але аб'ём вяшчаньня на Беларусь застаецца на тым самым узроўні, што і на пачатку 90-х. Ці могуць слухачы Радыё Свабода спадзявацца на пашырэньне вяшчаньня ў найбліжэйшай будучыні?**

**М.Н.:** Рэч у тым, што ня кожнае міжнароднае радыёвяшчаньне захавала свой бюджэт падчас кіраваньня адміністрацыяў як дэмакратаў, так і рэспубліканцаў, разам з новым бюджэтам, запрапанаваным адміністрацыяй Буша. Прычына — у падвышэньні кошту жыцьця. Нягледзячы на тое, што крызысных праблемаў у сьвеце не паменела. І таму сам факт, што бюджэт беларускага радыёвяшчаньня ня быў скарочаны — гэта ўжо паказьнік значнасьці Беларусі. Бо ў цэлым гаворка ідзе пра 67 моваў, на якіх мы вяшчаем на самыя розныя краіны. Беларусь, паўтаруся, вельмі значная. І калі б Кангрэс выдзеліў больш сродкаў, мы былі б радыя пашырыць вяшчаньне на Беларусь і палепшыць тэхнічныя якасьці вяшчаньня.

**С.Ш.: Ці плянуе Голас Амэрыкі распачаць вяшчаньне па-беларуску?**

**М.Н.:** Тут ёсьць філязофская розьніца паміж першапачатковай місіяй Голасу Амэрыкі і таго, што мы называем «сурагатным», або альтэрнатыўным вяшчаньнем. Маю на ўвазе ня толькі Радыё Свабода, але й радыё Свабодная Азія ды інш. Аднак зь цягам часу мы бачым, што мяжа паміж гэтымі відамі вяшчаньня часам сьціраецца. Напрыклад, у Афрыцы, дзе Голас Амэрыкі асьвятляе мясцовыя падзеі, а ня толькі падзеі ў ЗША і сьвеце. Тым часам, альтэрнатыўныя станцыі, як Радыё Свабода і Свабодная Эўропа, маюць на мэце глыбей інфармаваць пра мясцовыя падзеі. У гэтай справе Камітэт вырашыў наступнае: не ўва ўсіх выпадках, але ў большасьці выпадкаў, калі на пэўную краіну працуюць абедзьве службы, напрыклад, і Голас Амэрыкі, і Радыё Свабода — лепш зрабіць выбар і ўзмацніць адну з гэтых службаў, каб яна магла найлепей паслужыць гэтай краіне. Так што наўрад ці можна чакаць адкрыцьця беларускай службы на Голасе Амэрыкі.

**С.Ш.: Беларусь, бадай, адзіная краіна ў Эўропе, дзе Радыё Свабода ня мае мясцовай рэтрансьляцыі. Ці плянуе Камітэт нешта зрабіць для выпраўленьня сытуацыі?**

**М.Н.:** Так. На жаль, не магу паведаміць дэталі.

**С.Ш.: Вашага «так» ужо дастаткова... Ці спыніце Вы вяшчаньне, калі аднойчы беларускія ўлады пачнуць глушыць Вашу трансьляцыю, як было за савецкім часам?**

**М.Н.:** Ні ў якім разе! Для мяне глушэньне — гэта паказьнік посьпеху вяшчаньня на краіны з таталітарным рэжымам, якія не дазваляюць людзям фармаваць сваё меркаваньне наконт пачутага. Мы не баімся глушэньня. Мы вяшчаем на Кубу ўжо шмат гадоў, ад самага пачатку ўлады Кастра. Там нас глушылі заўсёды, і ніколі, падкрэсьліваю, ніколі амэрыканскі ўрад не спыняў вяшчаньня на краіну, якая глушыць перадачы. Наадварот.

**С.Ш.: Беларусь — ня толькі краіна, на якую вяшчаюць Вашыя радыёстанцыі, гэта таксама краіна Вашых продкаў. Што Вы ведалі пра Беларусь, які яе вобраз захоўваўся ў Вашай сям'і?**

**М.Н.:** Мой дзед зьехаў, калі яму было 15 гадоў. Ён уцёк, запісаўся ў канадыйскае войска і ваяваў у першую сусьветную вайну. Дык вось, ад дзеда я чуў не пра палітыку ці што там адбывалася, а пра людзей, традыцыі. Мой дзед, які жыў у Мінэсоце, куды прыехаў з Канады пасьля першай вайны, любіў рыбалку і любіў харчавацца рыбай. Дык вось, гэта я ўспрымаю як адну з традыцыяў, якія ён захаваў са сваіх дзяцінных гадоў у Беларусі. У Вас шмат рэчак і азёраў, і людзі, напэўна, шмат займаюцца рыбалкай. Вось што я захаваў пра Беларусь ад маіх дзядоў. Толькі нядаўна я даведаўся, як завецца мястэчка, адкуль мой дзед, — Баранавічы. Магчыма, калі-небудзь наведаю гэтыя мясьціны.

**Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў**

# У Браціславе — "Маркіза", у Празе — іракцкія шпіёны

**Вугоршчына зьбіраецца надаць адмысловыя правы суайчыньнікам, што жывуць у суседніх краінах.** Калі гэтая пастанова будзе прынятая, больш за 3 мільёны мадзяраў, што жывуць у Славаччыне, Румыніі, Украіне і Сэрбіі, атрымаюць адмысловы статус "вугорцаў з суседніх краінаў". Гэта дасьць ім права на працу 3 месяцы ў год на тэрыторыі Вугоршчыны, а таксама зьніжкі на праезд вугорскай чыгункай і бясплатны доступ да платных бібліятэк і ўстановаў культуры. Сем'і, што жывуць па-за межамі гістарычнай радзімы, але аддаюць дзетак у вугорскія школы, будуць мець права на штомесячную дапамогу ад вугорскага ўраду (80 даляраў на кожнае дзіця). Акурат гэта выклікае найбольшы пратэст у суседзяў. Славацкія нацыяналісты лямантуюць, што з-за матэрыяльных выгодаў стаць "вугорцамі з суседняе краіны" захочуць і многія славакі (дзеля гэтага і шмат якія беларусы парабіліся б вугорцамі). Лідэр румынскіх нацыяналістаў Тудар заклікаў урад забараніць людзям, што атрымалі "статус вугорцаў з суседняе краіны", займаць грамадзкія пасады.

Адна з мэтаў пастановы — імкненьне спыніць эміграцыю замежных вугорцаў у мэтраполію. Атрыманьне вугорскага грамадзянства аўтаматычна пазбаўляе статусу "вугорца з суседняе краіны".

**Уладальнік найбуйнейшага славацкага камэрцыйнага ТВ "Маркіза" Павал Руска заснаваў уласную палітычную партыю** — Саюз новага грамадзяніна (па-славацку абрэвіятура назвы гучыць як ANO і ў перакладзе на беларускую значыць "так"). Тры гады таму "Маркіза" падтрымала на выбарах дэмакратычны хаўрус, які адхіліў ад улады Мэч'яра. Калі Руска адышоў ад дэмакратаў, "Маркіза" пачала востра крытыкаваць урад. Руска — папуліст, які валодае магутным апаратам прапаганды. У аснове ягонай палітычнай праграмы — праблемы беспрацоўя, злачыннасьці ды аховы здароўя.

Выбары ў Славаччыне адбудуцца ў наступным годзе.

**З Чэхіі выслалі іракцкага дыплямата Ахмада Халіла Ібрагіма Саміра, што кіраваў іракцкай выведкай у Чэхіі, Славаччыне і Польшчы.** Ён найбольш прыглядаў за іракцкай апазыцыйнай эміграцыяй — у Празе месьціцца іракцкая служба Радыё Свабодная Эўропа. Самір прыехаў у Прагу ў 1999 г., пасьля таго, як ягоны папярэднік папрасіў палітычнага прытулку ў Вялікай Брытаніі, хаваючыся ад Садама. Беларускіх дыпляматаў з Чэхіі яшчэ не высылалі.

**У Сэрбіі ўзбуджаныя крымінальныя справы супраць асобных вайскоўцаў, што ўчынілі злачынствы падчас косаўскіх апэрацыяў.** Аднак прэсавы сакратар Генштабу абвергнуў сьцьвярджаньні, што ў Косаве быў адмысловы аддзел, які спальваў целы забітых і зьнішчаў іншыя сьляды злачынстваў.

**Сяргей Рак**

**Водгукі**

# Гэта вам ня джынджыкаў страляць

**Пішу з нагоды ліста Невядомага Жаўнера зь Нью-Ёрку пра "дэмакратыю ўпырхлікаў".**

З галоўнай думкай згодны цалкам. Надышоў час зразумець, што ў краіне адбываецца. Мяне, простага выбаршчыка, цікавіць цэлы жмут пытаньняў. Мяне цікавяць словы і справы тых людзей і арганізацый, што набіваюцца да мяне ў "свае". Прайшло ўжо сем гадоў, а што зрабілі тыя, за каго я павінен ісьці галасаваць? Якія перамогі яны атрымалі, чаго навучыліся самі і навучылі іншых, колькі грошай зарабілі сваімі рукамі, што зрабілі карыснага для мяне, для маёй радзімы, для вёскі Навасёлкі, для якой-небудзь Шаркаўшчыны, для Менску, нарэшце?




Жаўнер піша пра 500 арганізацыяў. У кожнай зь іх ад 10 да 100 чалавек. Калі б кожны зь іх штомесяц на працягу 7 гадоў даваў па 10 даляраў на супольную справу, дык колькі грошай было б сёньня для "адзінага кандыдата"? І я хачу даць, і той дзядзька з Аўстраліі дасьць. Толькі каму даваць і навошта? Якога ражна мне галасаваць за гэных вяпласаў і ківайлаў, што ня здолелі нават паміж сабою дамовіцца? Неяк зайшоў я ў крамку, што гандлюе сатэлітарнымі прыладамі, і там, у сьпісе праграмаў, прачытаў, што ёсьць ажно два курдзкія каналы. У іх нават краіны сваёй няма, яны раскіданыя па ўсім Блізкім Усходзе, супроць іх ідзе сапраўдная вайна, а яны маюць сатэлітарную тэлевізію. Бо людзі як могуць працуюць дзеля сваёй краіны — хто ў гарах са зброяй, хто ў Эўропе за прылаўкам. Гэта Вам, панове, ня джынджыкаў страляць і ня конікаў з гаўна ляпіць.

Калі б усю моладзь, што таўклі на "мерапрыемствах" і "акцыях", 7 гадоў вучыць за мяжой — во была б каманда для "адзінага кандыдата"! Можна, зразумела, паклікаць "новых дэмакратаў" — во будуць красьці, бляха! Можна пакрыўдзіцца і сказаць, што гэта можна рабіць і сёньня, ажно не, сёньня страшна, вядома ж — дыктатура. А тады будзе дэмакратыя, тут барацьбіты і пагуляюць... Дык на халеру мне ісьці на гэтыя выбары, панове? Адкажыце, калі ласка.

**А.Х., Навасёлкі**

# Тыдзень сяброўства?

**Прачытаў я неяк у "НН" артыкул "Два лісты сяброўства". Так ён мяне ўразіў, ажно сьлёзы на вачох выступілі.**

І вырашыў я падзяліцца добрымі ўражаньнямі зь іншымі людзьмі, як і прасілі ў лісьце: каб больш дабрыні было на сьвеце. Сябры мае прачыталі гэтую "НН" (сам ім прапанаваў), таму вырашыў я перакласьці ліст у расейскую мову і даслаць незнаёмым людзям па электронных адрасах, якіх у Сеціве можна знайсьці колькі хочаш. Адправіў.



На наступны дзень заходжу ў сваю электронную скрыню, праглядаю пошту і бачу ўжо адказы. У адным было, што няправільны адрас, і мой ліст не дайшоў; у другім прасілі пераслаць ліст на іншы адрас, бо ўладальнік зьмяніўся; а вось у трэцім... Я павінен падаць тэкст цалкам, каб вы зразумелі, што я адчуў. Аддаўшы часьцінку сваёй душы, даслаўшы ліст з самымі добрымі намерамі, я атрымліваю: *"Иди ты на х...!"* Ува мне аж страсянулася нешта. Ніяк я ня мог чакаць такога! Адразу прыйшлі думкі пра тое, што ўсе людзі — апошнія цынічныя гады й г.д. Сталі ўзьнікаць пляны помсты: адказаць яму брыдка й брутальна, заваліць гэты адрас усялякай лухтой, знайсьці гэтага чалавека й штосьці яму зрабіць...

Але я вырашыў застацца сабою. Пакінуў ягоны тэкст, а ніжэй дапісаў: "Вялікі дзякуй. Барані цябе Божа. Будзь шчаслівы!" — і адправіў.

Наступным днём зазірнуўшы ў сваю электронную скрыню, ізноў убачыў ліст ад таго самага чалавека. У ім было: *"Спасибо. Удачи!"*

Вось такая гісторыйка пра нізкасьць і велікадушнасьць чалавечую. Сапраўды неспазнавальная Душа, і ўсё ў ёй разам — і Дабро, і Зло.

**Вітаўт Пісарык, Менск**

# 29 красавіка Міколу Ермаловічу споўнілася б 80 год



... Ды цемра вас ня зможа напужаць,
І ў ёй ніхто з вас, мужных, не саб'ецца,
Бо шлях цяжкі вам будуць асьвятляць
Палаючыя ярка вашы сэрцы.

**Мікола Ермаловіч**

*Сябры памятаюць Міколу Ермаловіча*

# Жаўнеру

**Калі ты — Невядомы Жаўнер, дык павінен спачываць на Пляцы Перамогі пад мармурам і вечным агнём.**

А калі табе хочацца даць якуюсьці параду тутэйшаму люду, тады ўжо лепш падпісацца, хто ты такі ёсьць. Каб бачылі людзі, што раіць ім чалавек, да якога карысна прыслухацца. Чалавек, які не аднаго разу арганізоўваў ды браў удзел у мерапрыемствах апазыцыі, які неаднойчы трапляў у кіпцюры "ўнутраных" ды іншых гэткіх органаў, чалавек, які многае перадумаў, начуючы на Акрэсьціна, які не адзін плот аздобіў надпісам "Жыве Беларусь!", не адну школку ці суседа падпісаў на незалежнае выданьне, не адну тысячу штрафу заплаціў з уласнае кішэні. І які толькі часова апынуўся ў Нью-Ёрку здароўе паправіць. А так раіцца багата зараз усякіх, асабліва за Бугам.

Не сакрэт, што з тых пяці тысячаў, што выходзяць на вуліцы 25 сакавіка, 26 красавіка й г.д., мала людзей сапраўды гатовых кінуцца на амбразуру, не трымаючы ў гэты час у галаве Прагі, Нью-Ёрку ці Варшавы. Але ж адсотак такіх людзей непараўнальна вышэйшы, чымся сярод тых пяці тысячаў, што адседжваюцца ў гэты час па сваіх кватэрах. І гэта ўжо пазытыў.

А вера... Вера — яна альбо ёсьць, альбо яе няма, і мацавацца яна павінна не артыкуламі ў "НН".

**Вячка Васілёнак, Менск**

# Мільён паўлітровак

**У Івацэвіцкім раёне за мінулы год прадалі каля мільёну бутэлек гарэлкі на 30 тыс. жыхароў**, і гэта без уліку "чарніла" ды самагонкі. Вось вам і здаровы лад жыцьця, спарткомплексы і лядовыя палацы. Улады папросту спойваюць народ, каб і надалей захаваць сваю ўладу. Але, трэба сказаць, што гэта выходзіць і з псыхалягічнай слабасьці, няўпэўненасьці чалавека.

**Вячаслаў Куцко, Целяханы**



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Лошыца да рэстаўрацыі

# Тут быў парк

## *Барбарская "рэстаўрацыя" Лошыцкага парку*

Лошыцкі парк — адзін з маіх любімых куткоў дзяцінства. Ён заўсёды ўражваў мяне сваёй амаль некранутай прыродай побач з цэнтрам вялікага гораду, сваімі маляўнічымі краявідамі. Апошнім часам у СМІ зьявіліся паведамленьні, што ў парку пачалася рэстаўрацыя, у выніку якой ён атрымае гістарычны выгляд, стане яшчэ ўтульнейшым і прыгажэйшым. Як толькі пачаліся сонечныя веснавыя дні, я прыйшоў у парк, паглядзець, што зьмянілася. Убачанае пакідае сапраўды незабыўнае ўражаньне.

З боку Серабранкі адкрыўся "цудоўны" краявід на паўразбураны плот трансфарматарнай падстанцыі. У парку — неверагодная колькасьць вялікіх і малых пянькоў. Над шмат якімі таўкуцца мушкі, а гэта сьведчыць аб тым, што цячэ сок, значыць, дрэва было жывое і здаровае. Куды падзеліся сьпілаваныя дрэвы, шукаць ня трэба, бо паўсюдна бачныя вялікія выпаліны. Раней у парку было шмат розных відаў дрэваў і хмызоў, зараз засталіся толькі яблыні. Парк зрабіўся панурым і аднастайным.

Цэнтральную частку парку расчысьцілі ад дрэваў да такой ступені, што можна бачыць аўтамашыны на суседніх магістралях, цягнікі на далёкай чыгункавай лініі і ліхтары на вуліцы Асаналіева. А калісьці тут была ўтульная палянка, на якой не адчуваўся ні вецер, ні гарадзкога шуму.

Магчыма, я не разумею сучаснай эстэтыкі і перадавых мэтадаў рэстаўрацыі, але чамусьці мне больш падабаўся былы парк — зь цішынёй, птушынымі сьпевамі і сьціплымі беларускімі расьлінамі, а не цяперашні — адкрыты пылу й гарадзкому шуму і зь бясконцымі плямамі выпаленай зямлі.

**Андрусь Сяркоў, Менск**

# Супрацьстаяньне нацыяналістаў і лібэралаў

**Пасьля працяглай апрацоўкі часткі юных сяброў і прыхільнікаў Беларускай Партыі Свабоды спэцслужбамі і "лібэральнай "Хартыяй" частка юнакоў сышла з арганізацыі.**

Адышлі — і Бог зь імі. Але вось тутака і пачынаецца самае галоўнае. Разумеючы, што БПС ня можа зарэгістравацца пры цяперашнім рэжыме, "Хартыя" рэкамэндуе хлапцам-адкольнікам пагуляць у PR. Ужо і раней у Беларусі абвяшчаліся групы "сапраўднага БПС".

У беларускай апазыцыі склаліся дзьве ідэалёгіі і дзьве палярныя сілы: лібэральна-намэнклятурная і нацыянальна-вызвольная. У лягеры памяркоўнікаў запраўляе шэры монстар — "Хартыя", цьмяная структура вялікіх фінансавых магчымасьцяў.

Як ставіцца да арганізацыі, што спрычынілася да расколу БНФ, адкалу часткі людзей ад БПС, якая сёньня вядзе кампанію супраць "Маладога Фронту"?! Шэфства "Хартыі" над рэвізіяністамі, што адышлі ад БПС, працягваецца.



Сяргей Высоцкі

Сёньня з падманутых маладых людзей робяць пудзіла, кідаючы іх у разнастайныя скрайнасьці і авантуры. Па задуме закулісных дзядзькаў, гэткім чынам будзе падарваны давер да БПС і ейнага прадстаўніка С.Высоцкага.

Але, сяброве-PR'нікі, ёсьць прынятая ва ўсім сьвеце норма — права інтэлектуальнай уласнасьці. Беларуская Партыя Свабоды сапраўды больш нагадвае рух, чым легальную партыю. Хто абвесьціў ды ўсе гэтыя гады стварыў арганізацыю?! Урэшце, сама "Хартыя" — гэткая ж незарэгістраваная структура, і да яе можа быць ужыты такі ж PR. Аднак ці варта да падобнага апускацца ў гэткі час?

Аб гэтым таксама сьлед задумацца "палітычным камбінатарам". І ўжо зусім брыдка дзейнічаць дробнымі абразамі ў прыватных абвестках, прыкрываючыся бедалагамі-юнакамі. Калі гэтак "памяркоўныя лібэралы" будуць канкураваць з нацыяналістамі, дык дарога ім будзе, куды і цяперашняй уладзе.

**Сяргей Высоцкі, БПС**

# *Падзяка дабрадзеям*

**Шчыра ўдзячная за падпіску на "НН", што зь перарывам на сакавік нечакана стала зноў ісьці мне ў красавіку.**

Сапраўдны падарунак да Вялікадня ад нейкага дабрадзея. Падзяка яму са старонак улюбёнай газэты, а таксама віншаваньне з Уваскрасеньнем Хрыстовым ды пажаданьне, каб быў здаровы, меў посьпех у справах, і каб гаманец яго не пусьцеў для розных дабрачынных акцыяў!

Мне 46 год, па прафэсіі бібліятэкарка. Маю чацьвёра дзяцей (і гэта нягледзячы на вышэйшую адукацыю!) — трох сыноў і дачку. Старэйшы сын працуе журналістам у газэце "Вячэрні Гомель" і, хоць журналісцкай адукацыі ня мае, справы ідуць няблага, друкуецца ў кожным нумары, і ў іншыя газэты дасылае свае артыкулы. У сэнсе ўласнага заробку цьвёрда стаіць на нагах, мае і ўтрымлівае сям'ю. Астатнія ж сыны і дачка яшчэ школьнікі-падлеткі ды (няшчасная мая галава!) да таго ж усе спартоўцы. Дадому прыходзяць са зьвярыным апэтытам. Добра яшчэ, што дваіх на працягу тыдня корміць вучэльня алімпійскага рэзэрву, дзе яны вучацца на аддзяленьні сучаснага пяцібор'я. Муж працуе майстрам на "Гомсельмашы", але, хоць зарабляе няблага, наяўных грошай заўсёды не хапае. Хітрая сыстэма дзейнічае: адміністрацыя заводу (ці нехта вышэйшы) вырашыла, што пад аванс будучага заробку можна даведкі рабочым выдаваць. І па гэтых даведках у некалькіх крамах без гатоўкі можна набываць нейкія прадукты. Калі ж рэшткі заробку і дадуць наяўнымі грашыма, заплаціш за кватэру і ўсе камунальныя паслугі — ды зноў чакаеш палучкі ці авансу. А ў бібліятэкара заробак каля сарака тысячаў. І хоць аддаюць гэтыя грошы своечасова, але на што іх хопіць ды як надоўга?..

Цяпер для ўсіх час нялёгкі, і шмат людзей пакутуюць значна больш. Але надакучыла ўжо гэтая барацьба за выжываньне, хочацца пажыць палюдзку. І ня толькі ў сэнсе матэрыяльнага дабрабыту, але марыцца іншым разам і пра незалежны беларускі нацыянальны тэлеканал або хоць некалькі гадзінаў недзяржаўнага "Радыё Рацыя", што рэклямуецца вы ў "НН" (як ня маем у кватэры нічога, акрамя рэпрадуктара афіцыйнай брахалаўкі, дык што карысьці глядзець на рэклямкі — "аб'ектыўна пра рэальнае"?).

Таму сапраўды "НН" — газэта маёй душы. А прачытаўшы нумар сама, перадаю яго яшчэ ў другія рукі. На жаль, мае сямейнікі не вельмі прыхільна ставяцца да тарашкевіцы, таму выпісваю яшчэ "Рабочы" (яна вельмі танная, 140 рублёў на месяц — гэта без дастаўкі, бо распаўсюджвае супрацоўнік навучальнай установы, дзе я працую). Дарэчы, неяк я наважылася даслаць туды свой верш, і яго нават надрукавалі, праўда, трохі зьмяніўшы. Дасылаю яшчэ некалькі прыватных абвестак, ну як удасца зацікавіць любімай газэтай тых, каго віншую?

Яшчэ раз дзякую за падпіску. Жывеце лепей!

**Л.Казімірава, Гомель**

# МЕНСКІЯ вар'яты

*апавяданьне*

Адам Глёбус



Люблю Менск. Ведаю, шмат хто ня любіць майго гораду. Адным замала ў ім гістарычных помнікаў, другім не стае геніяў, трэцім ніяк не вымалёўваюцца пэрспэктывы нармальнага разьвіцьця. Шэрасьць, асфальтавасьць, прыпыленасьць і задымленая туманнасьць вызначаюць аблічча майго Менску. Архітэктура стандартная, насельніцтва бесхарактарнае, начальства прыблуднае, мова білінгвістычна-макаранічная. Што ў Менску можна любіць? Вар'ятаў! Іх постаці, твары, паводзіны разбураюць завядзёнкі, парушаюць нормы і правілы, ствараюць непаўторнасьць нашае сталіцы.

Вось табе Вова-Камандзір. Я ведаю Вову гадоў трыццаць, і колькі памятаю — ён заўсёды быў стары, сівавусы, стрыжаны пад "бобрык", у вайсковай форме. Можа Вова й хадзіў некалі ў камандзірах, але наўрад. Хутчэй за ўсё, ён, як большасьць хворых на галаву, проста любіць усё вайсковае: боты, фрэнчы, фуражкі з кукардамі. Такі бяскрыўдны вайсковец — Вова-Камандзір. Дзе жыве, хто яго́ныя сваякі — невядома. Але я добра ведаю, дзе й чым Вова харчуецца. Камандзір любіць кафэтэрыі гастраномаў. Магазыншчыцы наліваюць яму гарбаты. Вова сыпле, не шкадуючы, лыжачак зь пяць цукру, зьбірае недаедзеныя канапкі, кавалкі батонаў, абгорткі тварожных сыркоў і моўчкі падсілкоўваецца ў кутку. Праўда, гарбату сёрбае вельмі гучна. Ад любові да ўсяго перасалоджанага і зацукраванага ў Камандзіра баляць зубы. Таму яго часьцяком можна пабачыць каля другой стаматалягічнай клінікі, што месьціцца насупраць кінатэатру "Цэнтральны". Паліклініка працуе круглыя суткі. У ёй заўсёды сьветла і цёпла. Вова-Камандзір любіць сядзець у чарзе й чакаць, калі раніцай адчыняцца кафэтэрыі, дзе можна пасаладзіць душу перацукранай гарбатаю. А запляваны крывёю сьнег каля ганку паліклінікі, відавочна, ніколі не псаваў Вову апэтыту.

Сам Вова-Камандзір таксама ніколі не псаваў мне апэтыту, а вось ад пагляду на Жабрака-Прэзыдэнта заўсёды рабілася млосна...

Ён стаяў на сходах станцыі мэтро "Акадэмія навук" і прасіў грошы. Нават і не прасіў, а проста трымаў зімовую шапку так, што кожны разумеў — дайце на хлеб. Кідалі яму неахвотна. Агіду ён выклікаў, бо не стары, а такі запушчаны, сьмярдзючы, неахайны. Бррр... І вось, у адно імгненьне ён стаў самым знакамітым жабраком у сталіцы, дый ня толькі ў Менску, а ва ўсёй Беларусі, бо быў страшэнна падобны да першага прэзыдэнта. Усе толькі й гаварылі пра яго, паказвалі адзін аднаму. Ну і грошы сыпаліся ў шапку нечаканым дажджом. Жабрак-Прэзыдэнт неяк нават папрыгажэў, пакруглеў, паружавеў... Быў жа зялёны, як мярцьвяк, а тут і падстрыгаецца, і шчокі голіць, вусы падрэзаў акуратненька — рыхтык Лукашэнка. Вядомасьць Жабрака-Прэзыдэнта абярнулася для яго бядою. Ці са сваёй ініцыятывы, ці на загад згары, мянты пачалі ганяць жабрака. Толькі ён стане каля кінатэатру "Кастрычнік", а яны тут як тут. "Валі адсюль! Каб духу тут твайго не было!" Жабрак-Прэзыдэнт сунецца да Акадэміі мастацтваў, але й стуль яго праганяюць праваахоўнікі. Не такая й добрая рэч, як высьветлілася, быць падобным да кіраўніка краіны. Калі ты жабрак, дык лепей быць падобным да апазыцыянэра — Васіля Быкава ці Зянона Пазьняка. Урэшце, ён прапаў. Колькі часу ў Менску хадзіў жарт: маўляў, Лукашэнка запрасіў жабрака да сябе працаваць двайніком. Цяпер таго смуродлівага шызіка ніхто ня згадвае. Забыліся. Вось прападзе чалавек, усе пагаворалць, паўспамінаюць, прыдумаюць нейкую казку пра двайніка й забываюцца на зьніклага чалавека.

Ходзіць у Менску яшчэ адзін двайнік, толькі ён выдае не на прэзыдэнта, а на слыннага літаратара...

Адзін час вар'ят Валера быў вельмі падобны да пісьменьніка Ўладзімера Арлова. І ня дзіўна, бо Валодзю Арлова ў літаратурным асяродзьдзі шанавалі й любілі, а Валера якраз і спэцыялізаваўся на выпрошваньні грошай у рэдакцыях і Саюзе пісьменьнікаў. Хворага так і называлі: Валера-Пісьменьнік. Ён, як самы сапраўдны пісака, абыходзіў усе рэдакцыі, нават у бібліятэкі завітваў. Шмат яму ніхто не даваў. Больш за тое, калі хто й ахвяраваў капейчыну, дык абавязкова казаў, каб Валера не купляў алькаголю. Піць яму катэгарычна забаранялі дактары, бо варта было Валеру выпіць бутэльку піва, як ён рабіўся агрэсіўны, кідаўся на людзей, нікога не пазнаваў і прачынаўся ў лякарні, што ў Навінках. Таму, даючы грошы, і Някляеў, і Разанаў па тры разы паўтаралі — піць нельга. І Валера-Пісьменьнік амаль не піў. Хто ж хоча качацца на бальнічных прасьцінах ажно сорак дзён? Няма дурных. Апошнім часам пісьменьніцкае асяродзьдзе моцна зьбяднела. Схуднеў, змарнеў, абсунуўся й Валера. Ён так зьмяніўся, што нават падабенства з Вовам Арловым зьнікла. Дый стаўленьне да Арлова ў літаратурным асяродку цяпер іншае: адны зайздросьцяць, другія не падзяляюць яго́ных яскравацыяналістычных перакананьняў, але засталіся трэція — патрыёты, якія чытаюць, шануюць і любяць Вову яшчэ больш, чым раней. Вось да іх надоечы і зьвярнуўся Валера. Прыйшоў на выступленьне капыльскага народнага тэатру, падышоў да мастацкага кіраўніка й папрасіў грошы на бутэльку гарэлкі для грэтычнага літаратара Ўладзімера Арлова. Калектыў майстроў аматарскай сцэны сабраў рублі й перадаў іх самазванцу. Да сапраўднага Ўладзі Арлова тая пляшка, вядома, не патрапіла. А чутка пра здарэньне дайшла, чым жывы клясык гістарычнага жанру і суцешыўся.

Калі Валера-Пісьменьнік круціўся і круціцца ў дэмакратычных колах, дык яго́ны антыпод Заіка-Газэтнік зьбірае вакол сябе разнастайных артадоксаў...

Па дарозе з Камароўскага рынку да мэтро можна пабачыць гандляра расейскімі шавіністычнымі газэтамі. Тоўстыя, чырванатвары, з маленечкімі парсючымі вочкамі, запакаваныя ў расейскі нацыянальны колер — хакі, ён вядзе дыскусіі пра былую веліч расейскай ідэі, пра хімэрычнае мэсіянства расейскага народу, нацыянал-патрыятызм экзальтаванага палітпісьменьніка Эдуарда Мандарынава, пра сымболіку калаўротаў і процьму іншых цікавосьцяў для маргінальных асобаў пэнсійнага веку. Распаўсюднік напаўлегальнай прэсы, як і большасьць носьбітаў вялікарасейскай ідэі, грэшны на *інародчаскі* акцэнт: ён крыху заікаецца — але прыродная дабрыня, дзіцячая шчырасьць і ўгодлівасьць дробнага гандляра падкупляюць. Чаму не спыніцца? Чаму не набыць брыдкаслоўнай газэткі? Чаму жартам не паспрачацца пра пэрспэктывы беларускай мовы? І раптам высьветліць, што Заіка-Газэтнік вельмі любіць і паважае беларускае слова. А белпрэсаю ён не гандлюе таму, што ў ёй замала экспрэсіі. Пра "Слова Нацыі" ён ня ведае, а ўсё астатняе сапраўды можна набыць у любым шапіку ад Навінак да Камароўкі і ад Малінаўкі да Чыжоўкі. У кожнага свая праўда, свае навіны й свае вар'яты.

Для адных вар'яцтва канцэнтруецца ў газэтных шапіках, а для другіх яно жыве на могілках...

Могілкавы Прыбіральнік — ці ня самы калярытны вар'ят у Менску. Начуе ён на Вайсковых кладах. Як толькі сыходзіць сьнег, ён пачынае спаць на прымагільных лаўках, непадалёк ад помнікаў Коласу й Купалу. І так ажно да маразоў. А ўзімку хаваецца на гарышчах і ў сутарэньнях паблізу ад тых жа кладоў. Харчуецца ў магазінах "Садавіна-гародніна". "Дайдай агурок!" — крычыць ён на ўсю краму. Шкадуючы, вылоўліваюць з бочкі салёнага караля беларускіх агародаў, частуюць паўдурка. Першым агурком ён хрумкае каля прылаўка, а другі нясе на могілкі й нясьпешна зьядае ў засені бэзу. Але не паяданьне салёнае гароднны — галоўная асаблівасьць Могілкавага Прыбіральніка, а паталягічная прага чысьціні. З раніцы да раніцы ён зьбірае сьмецьце. Пасьпіць якую гадзінку й зноўку носіць розныя паперкі, бутэлькі, бляшанкі на сьметнік. Лаецца Прыбіральнік магутна... "Пазасіралі, запаскудзілі, засцалі..." І так ажно пакуль не пачнецца прыпадак. Тады кантэйнэры са сьмецьцем коцяцца дагары нагамі, брудная рызьзё разьлятаецца ў розныя бакі, ён шкамутае, дзярэ, падфутбольвае, топчацца... Ажно пакуль сілы не пакінуць Могілкавага Прыбіральніка. Валіцца ён тады ў бруд і плача-скавыча, як загнаны ў пастку і сьмяротна паранены зьвер. Выплачацца, высьпіцца — і зноў за сызыфаву працу, прыбірае зь вечара да вечара, ад зімы да зімы.

Калі Могілкавы Прыбіральнік займаецца выключна матэрыяй, дык Зорык-Вынаходнік жыве мроямі, марамі, ілюзіямі...

Звычайна цёплымі вечарамі Зорык-Вынаходнік шпацыруе па Кастрычніцкай пляцы або ўздоўж "Цэнтральнага". У Зорыкавым заплечніку заўсёды знойдзецца бутэлечка сухога чырвонага, а калі няма, ён неадкладна прапануе пайсьці набыць бутэлечку. Гарэлкі Зорык ня любіць. П'е, як наліваюць, але ён сталы й трывалы аматар сухога рубінава-крывавага віна. Папіваючы алькаголь на беразе вечаровай Сьвіслачы, Зорык любіць распавядаць сябрам-сабутэльнікам пра свае найноўшыя адкрыцьці ў самых розных кірунках чалавечай дзейнасьці... Ну чаму сабакі ходзяць па вуліцах проста так? Трэба выпускаць вазкі для сабак, такія ж, як і для коней, толькі меншага памеру. Сабакавод ідзе у краму, а побач бяжыць улюбёнец, запрэжаны ў вазок. Адпаведна на зваротным шляху сабака павязе пакупкі. Чым кепска? У Беларусі выдатная мінэральная вада, і зусім няма мінэралаў. Трэба арганізаваць здабычу мінэралаў зь мінэральнай вады... Нашто ў кашулі каўнер? І наагул нашто каўнер патрэбны? Нікому не патрэбная дэталь вопраткі — каўнер. Адрэж яго, і што зьменіцца? Нічога. Але адразаць каўняры ня варта. Лепш правесьці тлумачальную працу пра непатрэбнасьць каўняроў і вырачыся іх цалкам. Уяўляеш, якая эканомія сродкаў? Колькі можна ўсяго ўсялякага патрэбнага пашыць з наэканомленай матэрыі! Ого!.. Гарады можна будаваць! Рабіць каркасы зь лёгкага мэталу і абшываць іх матэрыяй. Вядома, папярэдне тую матэрыю варта прапітаць антывогненным растворам... Ня кожны субутэльнік можа вытрываць Зорыкавы размовы больш за пятнаццаць хвілінаў. Але Вынаходнік не крыўдуе, бо чырвонае сухое хутка зморвае. Ён супакойваецца і засынае з шырока расплюшчанымі вачыма.

Наколькі абстрактныя пражэкты ў Зорыка-Вынаходніка, настолькі заземленыя развагі ў Алеся-Аналітыка...

Не сакрэт, што ў Менску процьма ўстановаў займалася й займаецца падрыхтоўкаю розных агентаў і спэцагентаў, ахоўнікаў і праваахоўнікаў. Беларус, як чалавек схільны да асыміляцыі, зьяўляецца найлепшым матэрыялам для вырабу шпіёнаў, журналістаў, выведнікаў і папросту кадэбістаў зь міліцыянтамі. Ну, а які ж таемны агент ня марыць на старасьці гадоў зрабіцца палітычным, а тым больш геапалітычным аналітыкам, і, пасьля бурапеннага жыцьця са стрэламі, трупамі, мільёнамі даляраў, сэксам з фотамадэлькамі, засесьці ў зацішнай аднапакаёўцы й пісаць артыкулы, якія лягуць у аснову стратэгіі й тактыкі разьвіцьця дзяржавы. Кожны апэратыўнік марыць стаць аналітыкам. Факт! Алесь-Аналітык ня вынятак. Праўда, ніякай шпіёнскай кар'еры ён не зрабіў. Ён наагул ніякай кар'еры не рабіў. Скончыў філязофскі факультэт і пайшоў працаваць на трактарны завод вартаўніком. Грошай няшмат, але як жыць аднаму — хапае. Затое процьма вольнага часу, і можна ночы навылёт пісаць аналітычныя артыкулы. Алесь піша, піша і піша. Аналізуе, прагназуе і, што самае цікавае, стварае ідэалёгію новай белдзяржавы. За бутэлькай гарэлкі, па вялікім сакрэце, найлепшым сябрам Алесь-Аналітык распавядае свой варыянт ідэалёгіі на аснове канфуцыянства, навуковага камунізму і расейскага стараабрадніцкага праваслаўя. Самае незвычайнае ў гэтай, так бы мовіць ідэалёгіі, тое, што ўласна беларуская ў ёй нямашака ні каліўца. Зрэшты, кожны вар'яцее, як умее, і на тым грунце, які мае. Ну, не чытаў Алесь Абдзіраловіча (Канчэўскага), што ты тут зробіш. Дый нічога рабіць ня трэба. Хай пра тое дбаюць супрацоўнікі жоўтага дому з бэльвэдэрам на вуліцы Камсамольскай, куды Алесь-Аналітык рэгулярна заносіць свае творы.



Хваляваньне за дзяржаву ахопліваё ня толькі Алеся-Аналітыка, але ёсьць і такія, каму на тую дзяржаву напляваць і начхаць. Такія пякуцца перш-наперш пра сябе, менавіта да іх належыць Хламаў-Халамаў...

У Хламава-Халамава была запаветная мара: навучыцца выпрошваць вялікія грошы. Ён з запалам распавядаў пра лёнданскую школу адукаваных жабракоў. Было ў тым аповедзе нешта сапраўды ангельскае, дыкенсаўскае... Можа гэта й быў пераказ ангельскай клясыкі, але ў выкананьні Хламава-Халамава гіпатэтычны праект набываў непаўторны менскі калярыт. Напэўна, дзеля абстаноўкі, у якой гучала апавяданьне. Хламаў меў невялічкую

# ВАР'ЯТЫ менскія

майстэрню на мансардзе двухпавярховага дамка на вуліцы Інтэрнацыянальнай. Бруднае, непрыбранае, заваленае старымі запыленымі рэчамі, сьмярдзючае памяшканьне з маленькімі вокнамі й нізкай стольлю. На падваконьні ляжалі пяць гнілых яблыкаў, зь якіх Халамаў пісаў натурморт пад назваю "Дэмагог". Дэмагогія і мройная адрошанасьць былі асноўнымі рысамі характару самога Хламава-Халамава... Ты апранаеш бялюткую кашулю, чорны смокінг, ідзеш на сьвецкі раўт і там з келіхам дарагога шампанскага ў руцэ просіш у якога-небудзь мільярдэра пазычыць на год мільён фунтаў. І ён табе дае мільён ангельскіх фунтаў. Вось чаму вучаць у лёнданскай школе жабракоў... Паверыць Хламаву-Халамаву мог толькі поўны ідыёт. І ён гэта цудоўна разумеў, але ня мог стрымацца, каб не расказаць у сто першы раз пра школу сваёй запаветнай мары. Свайго "Дэмагога" ён так і не дамаляваў, майстэрню прадаў за капейкі, набыў хатку ў вёсцы і адпаведна перастаў быць менскім вар'ятам.

Менск — горад вялікі, вар'ятаў і без Хламава-Халамава хапае, ну, хоць Габрэйскую Модніцу згадайма...

Жанчыны вар'яцеюць з-за шмацьця — не навіна. Але ёсьць сярод слабога на апранахі полу такія, што любяць прыбірацца больш за ўсё на сьвеце. Большасьць з такіх усё адно носіць гатовае адзеньне. А вось старажытную габрэйку з пляцу Перамогі куплёнае, відавочна, не задавальняе. Яна мадэлюе і шые сама. Яе стыль можна без перабольшаньня ахрысьціць шагалаўска-віцебскім. Салатавы палітончык з каўнярыкам лісінага футра. Фіялетавыя панчохі. Белыя боты на абцасах са срэбнымі спражкамі. Ружовапразрысты шалік і такія ж празрыста-ружовыя пальчаткі. Рыдыкюль, як і боты, бялютка-белы з масіўнай зашчапкаю. І макіяж у Модніцы адметна-незабыўны. Твар алебастравы, вусны цёмна-малінавыя, вочы падмаляваныя ультрамарынавымі ценямі й тушшу, а бровы шырокія і вугальныя, як крылы гругана. Завершанасьць і непадробнасьць усяму ансамблю надае брошка з галубовым шклом у карункавай аздобе белага мэталу. Яна іскрыстай кветкаю гарыць над яўрэйскім сэрцам. Модніца і ўлетку, і ўзімку ходзіць у адным і тым жа строі. Ходзіць вакол пляцу Перамогі зь ягоным фалічным абэліскам і вечнай фаеркаю. Ходзіць амаль штодня, але мала хто зьвяртае на яе ўвагу. Горад бяжыць, ляціць, сьпяшаецца... Справы, клопаты, заняткі... Каго хвалюе чужое шчасьце быць модным і прыгожым. Тысячы разоў я праходзіў каля, паўз, пад і побач з пляцам Перамогі й бачыць ня бачыў Модніцы, пакуль мастак-графік Ігар — Ізя Ліберман — не паказаў мне на яе. І цяпер я бачу яе ледзь ня кожны раз, як трапляю на круглы пляц. Ёсьць такая акалічнасьць — бачыць тое, што ведаеш. І менскія дзівакі — ня вынятак з гэтага правіла.

Правілаў шмат, парушальнікаў яшчэ больш. У адзін бок іх парушае Габрэйская Модніца, а ў другі — Сіротка.

Ёсьць вялікая розьніца паміж бамжом і вар'ятам. Бомж, бамжара, біч — чалавек, які сьвядома кінуў дом і сям'ю, бадзяецца па сьвеце, п'е ўсё, што гарыць, і есьць усё, што знойдзе ўежнага. Бадзягі — цэлы пласт грамадзтва, цэлая кляса ці праслойка, складзеная з антысацыяльных элемэнтаў. І часам можна памыліцца, паблытаць гарадзкога вар'ята з бамжарам. На выгляд яны бываюць вельмі падобныя. Абадраныя, абарваныя, нямытыя... Але бамжы — як ні дзіўна, людзі са сьвядомасьцю, з памяцьцю, з пэўным мэркантыльным інтарэсам. Яны проста ўпадабалі сацыяльнае дно. Сьвядома абралі бадзяжніцтва і п'янства. На іх бурачковых тварах нямашака пячаткі Божай. У іх паводзінах не выяўляецца Вышэйшай сілы. Яны лёгка пралічваюцца і рэглямэнтуюцца. Іншая рэч — дзівак-вар'ят. Ён адметны і непаўторны. Ніколі не здагадаешся, куды ён паверне, які будзе наступны крок. А раптам праз момант ён гучна, на ўсю вуліцу закрычыць: "Ы-ы-ы-ы-ы!!!"? Як вытлумачыць? Што сказаць? Ты бездапаможны супраць ягонае прыроды, як і супраць прыроды наагул. Застаецца адно назіраць, спачуваць і задумвацца над марнасьцю чалавечых намаганьняў. Але назіраць за вар'ятамі вельмі цікава. Утрая цікавей, чым за бамжамі. Таму за Сіроткам я не назіраў. Думаў, ён звычайны бомж, які начуе на гарышчы ў маім пад'езьдзе. Каб я быў больш уважлівы, дык адразу б адзначыў: бамжы ня носяць акуляраў. Ну на халеру бічу акуляры? А ў Сіроткі на чорным ад гразі твары сядзелі, можна сказаць, тэлескопы. Лінзы ў ягоных акулярах былі ў палец таўшчынёю. І калі мне сказалі, што Сіротку зьбіла машына, я падумаў пра акуляры. І ня толькі падумаў, а падняўся на гарышча правесьці рэвізію ў ягоным гнязьдзе. Там я знайшоў процьму малюнкаў. Сіротка быў мастаком. Маляваў ён выключна галовы мутантаў. Лупавокія, рэдказубыя, лабатыя, лысыя мутанты пазіралі на мяне зь мятых шматкоў абгортачнай паперы. Няўжо мы такія? Такія, такія, і ніякія ня іншыя.



Творы нябожчыка я пакінуў на гарышчы. Іх паступова пакрыў пыл і галубіны памёт, а можа нехта й забраў іх сабе, уставіў пад шкло ў рамы, павесіў на сьцяну. Сумняюся. Людзі ня любяць вар'ятаў, баяцца іх творчасьці, пазьбягаюць сустракацца зь іх паглядам, бо ў ім зеўрае абсалютна халодная вечнасьць.

Такія, як Сіротка, сапраўды блізкія да вечнасьці, а вось Зайчык-Папрашайка нагадвае матылька-аднадзёнку...

Дзе турысты, там і ён — даўгалысі Зайчык-Папрашайка. Турыстаў у Менску кот наплакаў, таму Зайчыку ня надта каб шыкоўна жывецца. Бегай, гойсай, скачы з Траецкага прадмесьця да гатэлю "Беларусь", ад гатэлю да Чырвонага касьцёлу, ад касьцёлу да царквы... Зайчыку гадоў пад трыццаць, але паводзіць ён сябе, як дзіця, апранаецца ў школьны касьцюмчык, просіць значкі й цукеркі. Турысты нешта даюць, экскурсаводы злуюць, лаюцца, праганяюць. Зайчык-Папрашайка ўцякае і вяртаецца зноў, каб атрымаць ад якога вясёлага араба прэзэрватыў.

Раней па турыстычных маршрутах сноўдалі зграі дзятвы, раней жуйка была экзотыкаю, а замежная манэтка — вяршынаю мары. Час зьмяніўся. Каго зьдзівіць жавальная гумка? Дзятва павырастала й паадчыняла свае шапікі з тымі гумкамі. Толькі Зайчык-Папрашайка застаўся верны абранаму шляху. Бяжыць-бяжыць, скача, уцякае, даганяе з працягнутай да турыста лапкаю, шукае сваё прывіднае шчасьце, сваё маленства, якое ніколі ня скончыцца. Так што я памыліўся, назваўшы Папрашайку матыльком аднадзённым, ён вечны, як міт.

Мы з табою, нармальныя, шэрыя, упарадкаваныя, сыдзем у нішто, а яны, вар'яты, застануцца ствараць непаўторны твар Менску.

**13.01.2001**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю



Ул.Содаль. **Карпілаўка**: Краязнаўчы нарыс. — Менск: Пейто, 2001. — 80 с.: іл. — ("Ведаць свой край Беларусь"). — Наклад 415 ас. ISBN 985-6024-36-6

*Ул.Содаль распавядае гісторыю вёскі Карпілаўкі, надаючы асноўную ўвагу жыцьцяпісу Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), які тут нарадзіўся, і падрабязна распавядаючы пра ўсіх славутасьцяў, што сваім часам наведвалі пісьменьніка ў Карпілаўцы. Чытач даведаецца, што зяцем Ядвігіна Ш. быў Язэп Лёсік, які ў 1917 г. пабраўся шлюбам з Вандаю Лявіцкаю. У кнізе ўпершыню друкуецца фаtаздымак: Я.Лёсік і В.Лявіцкая з сваімі дзецьмі: Юркам, Люцыяю й Алесяю.*




**Куфэрак Віленшчыны**: Гіст.-краязн. і літ.-маст. часопіс Віленскага краю. № 1 (3), 2001 г. — Маладэчна, 2001. — 192 с.: іл. — Наклад 299 ас.

*Нумар прысьвечаны роду Шутовічаў, зь якога паходзіць Янка Шутовіч, у часе другое ўсясьветнае вайны — дырэктар Беларускага музэю Івана Луцкевіча ў Вільні.*

Л.Рублеўская. **Рыцарскія хронікі.** В.Шніп. **Воўчы вецер.** — Маладэчна, 2001. — Наклад 299 ас.

*Кніга выдадзеная ў сэрыі часопісу "Куфэрак Віленшчыны".*

**Зямля Наваградзкая** / Ziemia Nowogródzka: Гіст.-літ. часопіс. №0, 2001 г. — Наваградак, 2001. — 40 с.: іл. — Наклад 100 ас.

*Спробны нумар новага выданьня, прысьвечанага гісторыі й культуры Наваградчыны. Выходзіць дзьвюма мовамі — беларускаю й польскаю. Ілюстрацыі каляровыя, папера глянцавая. Выдаецца часопіс два разы на год таварыствам філяматаў "Прамень".*

**Каляндар знамянальных і памятных дат па Магілёўскай вобл. на 2001 г.**/ Магілёўская абласная бібліятэка імя Леніна, Аддзел краязнаўчае літаратуры. — Магілеў, 2001. — 92 с. — Наклад 30 ас.

*Падаюцца біяграфіі славутых людзей, народжаных на Магілёўшчыне, чые юбілеі прыпадаюць на 2001 г.*

**География Гомельской обл.**/ Под ред. Г.Каропа, В.Пашук. — Гомель: Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф.Скарыны, 2000. — 286 с. — Наклад 100 ас.

*У кнізе падаецца фізычнае й эканамічна-геаграфічнае апісаньне прыродных і сацыяльных комплексаў Гомельшчыны. У прадмове аўтары настальгуюць па савецкай мінуўшчыне ды захапляюцца "славянафільскімі" ідэямі.*

**Кантакты й дыялёгі**: Інфарм.-аналіт. і культураляг. бюлетэнь. №2-3 (62-63), 2001. — Менск, 2001. — 64 с.: іл. — Наклад 299 ас.

*Сярод цікавых публікацыяў нумару: "Далькайм — эталённы комплексны поліэтнічны помнік археалёгіі I–XIII стст." і "Беларуская праская эміграцыя й Украінскі пэдагагічны інстытут імя М.Драгаманава".*



**Беларускія мастакі ў замежжы**: Памяткавы альбом пра 25 гадавых выставак беларускага мастацтва й народных вырабаў у Беларускім грамадзкім цэнтры ў Саўт-Рывэры (1973—1997 г.) — Bridgewater, NJ — Somerset, NJ — 2001.

Т.Карабович. **Вибрані поезії.** — Беласток, 2001. — 321 с. ISBN 83-88097-25-3

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# Сабачыя гісторыі

Віктар Шніп

Адзін сабака пераапрануўся ў сантэхніка. Прыйшоў да Граждана: "Вам трэба памяняць санвузел..." А Граждан не зразумеў, чаго ад яго хоча сабака, і сказаў: "Савецкі Саюз развалілі, а цяпер і вузел вам не падабаецца... Ня пройдзе такі фокус", — і, схапіўшы сякеру, выгнаў сабаку з камуналкі.

Адзін сабака пераапрануўся ў шафёра і выйшаў на вуліцу. Падбег Граждан і прапанаваў: "Даю сто даляраў! Пракаціце мяне з Манькай да станцыі мятра плошча Леніна..."

Адзін сабака пераапрануўся ў Граждана і выйшаў на вуліцу пагуляць. І бачыць — Граждан ідзе і кланяецца пераапранутаму сабаку. Сабака адразу пацікавіўся: "А чаму ты мне кланяешся?" "А каб ты мяне не забіў!" — адказаў Граждан.

Адзін сабака пераапрануўся ў жаніха і зьеў гарбуз. А Граждан быў пераапрануты ў гром-бабу і, убачыўшы гэта, сказаў: "Недурно..."

Адзін сабака зьеў кілаграм памідораў. Ад гэтага яму стала вельмі дрэнна, і ён выклікаў доктара. Прыйшоў доктар, а ўсьлед за ім — Граждан з малатком. І сказаў сабака: "У нас няма часу на раскачку. Тым больш, паўтаруся, у нас ёсьць дабротныя напрацоўкі. Да ўсяго, да такіх пытаньняў трэба падыходзіць асьцярожна, з усёй сур'ёзнасьцю і брацць на сябе тое, што зможаш падняць і несьці..."

Адзін сабака зьеў усе прыпасы, якія былі нарыхтаваны на выпадак вайны.

Адзін сабака зьеў піянэра. Прыбег Граждан і кажа: "Дзенгі давай! Кірасінку накупаць буду!"


IREX-PROMEDIA

## АД ГРАЖДАНА

Лайдаком Сабаку назваць цяжка. Працаўніком – таксама. Сабака – творчая асоба.

Калі Сабаку сумна, ён ловіць блох ці фарбуе будку.

На сьцягу адной краіны ёсьць воўк. А на Сабаку, які яго даганяе, як заўсёды, не хапіла месца.

Сабака не любіў прусакоў, бо ведаў: добрую жывёліну на кухні не паселяць.

Дабрачыннасьць заўсёды атаясамліваецца ў Сабакі з хлебам. Але ня з сольлю.

Сабака любіць, каб яго гладзілі. Але ня прасам.

У сьне Сабака ўздыхае, енчыць і торгае лапамі. І гэтага яму не забароніш.

Калі Сабака спрабуе распавесьці пра жыцьцё, ён пачынае брахаць.

Сур'ёзнае выпрабаваньне для Сабакі – вясельле.

Сабака заўсёды нясе цяжар любові да Граждана. Мо за гэта яго так часта кідаюць?

Сабака ня любіць паху алькаголю, бо ён выклікае падвышаную агрэсіўнасьць Гражданоў.

Сабака хацеў трапіць за мяжу. Але ня ведаў, дзе яна. Бо тая існавала толькі ў думках Граждаdноў.

Сабака любіць дрэннае надвор'е і добрых гаспадароў. Але наяўнасьць гэтых двух пунктаў ня часта супадае.

Сабаку рэдка бывае сорамна. А калі бывае, яго гоняць на двор. Таму сораму ніхто ня бачыць.

Сэнсам Сабачага жыцьця зьяўляецца служба. У адрозьненьне ад дзяржслужбоўцаў.

Прэзэнтацыі зьбіваюць Сабаку з панталыку: навошта марнаваць час, калі можна і так павячэраць?

У Сабакі вочы розныя: адно – левае, другое – правае.

Сабачай акадэміяй зьяўляецца жыцьцё. А асьпірантурай – вівары.

Сабака ня любіць прадметаў, якія рухаюцца, бо не ўспрымае Ньютана за Граждана.

Маркса Сабака не чытаў, але жыве ня горш за асобных бальшавікоў.

Сабака ня п'е гарэлкі, бо звычайна яго дрэнна запрашаюць гаспадары.

Уласны хвост Сабаку не падабаецца, бо выдае пачуцьці.

**Вангор Вушацкі, Маладэчна**



## КОШТЫ
### на платныя прыватныя абвесткі:



— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.
— афармленая абвестка — 71 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка.
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.
Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.
**На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

## Прыватныя абвесткі



### біблія

**Атрымаю** ў падарунак беларускую Біблію. Т.: 273-08-82

### віталньні

**Віншую сябе** зь першым годам у МФ! Хасэ
**Віншую з 2-годзьдзем** перамогі тых, хто на гарадзенскім бруку прымаў прысягу крывёй на вернасьць Нацыі. Зычу трываласьці й спору ў працы. Жыве Беларусь!
**Гарадзенцы** віншуюць спадара Саранчукова з 21-годзьдзем!
**Менскі МФ** віншуе калегу Саранчукова з Днём народзінаў
**Усіх працуючых з** народам віншую з 1 траўня (Днём Працы). Антыфашыст
**Пеця ды Даша!** Мы з вамі!
**Пеця**, трымайся — мы з табой! Усе твае сябры
**Віншуем** усіх чальцоў ды прыхільнікаў СПА "Край" з 2-годзьдзем Гарадзенскай перамогі. Зычым добрай долі й моцнай волі. Прыхільнікі з Салігоршчыны

### зямля

**Прадам надзел** зямлі 15 сотак у в.Лабады, што за 5 км ад Фаніпалю. Т.: 274-86-43

### ідэі

**Hanulka**, što malavała 21-ha partret, adhuknisia Alaksieju! Toj, što ū vajskovych botach
**В. п. сп. Мельнікаў**: сагнаны "ў рабства" Дз.Меражкоўскі тэрмінова патрэбны яго гаспадарам. Пірог і сям'я
**Жалезнай Лэдзі** зь Берасьця! У Шапэнгаўэра не было сапраўднага каханьня, каханьне мусіць быць рэальным у жыцьці! Вожык
**Вадзіку!** Табе ўжо можна піць гарэлку, дык налівай! Міхельсон
**Так, Лёшка**, ты маеш рацыю: з табой я губляю час, але набываю вечнасьць. Сонечны зайчык
**Лёшка!** Я люблю цябе проста так. Але якая тады карысьць ад гэтае любові? Можа дапамагу зьберагчы цяпло? Твая Паца-Ваца
**Лёшка-восьлік!** Я безь цябе ня маю вачэй, вушэй і сэрца! Я хачу, каб ты мяне знайшоў! Твой хвосьцік
**Скажы "не"** палітычнай мітусьні! Холіць гуляцца, прыйдзе час, і ты мусіш быць гатоў! 289-12-12, аб. 4430, bps@tut.by

### кантакты

**Хлопец шукае сяброў**, якія маюць ВІЧ-інфэкцыю. Адкажу ўсім. 220073, а/с 71

### кватэра

**Мяняю** 4-пакаёвую кватэру ў Баранавічах на 2-пакаёвую ў Менску. Т.: 46-01-37
**Сьвядомы беларус** здыме пакой у Менску (не даражэй за 15 даляраў у месяц). Т.: (277) 3-69-29, Сяржук

### музыка, кнігі

**У гарадзенскай выставы «Ў Міхельсона»** зьявіліся распаўсюднікі ў Варшаве... Просім далучацца спадарства з Гарадзеншчыны. Мы працуем штопанядзелка і штосерады з 17 да 20-й па вул.Маркса, 11 (2 паверх) ці лістуйце: 230003, Горадня-3, а/с 110.
**БПС шукае** нацыяналістычныя беларускія выданьні, просьба дапамагчы. Загадзя дзякуем. bps@tut.by. 220116, Менск-16, а/с 107
**Куплю** Т.4 Беларускай энцыкляпэдыі ў 18 т., Гістарычны слоўнік беларускай мовы, вып. 11. Т.: 262-67-02
**Сьвяточны распродаж** (з частковаю раздачай) рэштак хатняе бібліятэкі! Т.: 272-81-98
**Набуду кнігі** па эканоміцы, фінансах, бугальтарскім уліку на беларускай мове. khodar@tut.by
**Куплю асобныя тамы** або цалкам Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Т.: 213-70-85
**Заказы** на кнігу С.Адамовіча "Турэмны дзёньнік". Т.: 277-16-49
**На сядзібе ТБМ** (Румянцава, 13) па будзённых днях з 12.00 да 19.00 працуе выстава беларускіх кніжак, аўдыё- і відэакасэт, кампактаў, значак, календароў, часопісаў
**Па нядзелях** з 7-й да 14-й гадзіны на кніжным кірмашы ў ДК Трактарнага заводу можна набыць аўдыё "Я нарадзіўся тут", беларускія кнігі, відэа для дзяцей і інш.
**Шукаю музыкаў** для супольнай работы над маімі песьнямі. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### прадаю

**Танна прадаецца** дзіцячая швейная машынка, дзіцячыя кросны. Т.: 272-81-98
**Аддам за сымбалічную** плату фотапавелічальнік з усімі прыладамі. Т.: 272-81-98

### паведамленьні

**18 траўня** — Кастрычніцкі (Цэнтральны) пляц!

### праца

**Прапаную працу** ў піўным бары: бармэнам, кухарам, афіцыянтам, ахоўнікам. Т.: 242-80-85
**Запрашаем на працу** майстра ставіць філёнчатыя дзьверы й драўляныя шкло-пакеты. Т.: 247-98-31
**Арабская і ангельская мовы**: пераклады, індывідуальныя заняткі. Т.: 258-31-53
**Шукаю працу** ў хаце ці расклейшчыка. Выканаю іншыя даручэньні ў Гомлі. А/с 9, 246008, Гомель-8
**Выканаю адрасную**, бязадрасную рэкляму поштай у Гомлі, іншыя даручэньні. А/с 9, 246008, Гомель-8
**Дапамагу пачаць** уласную працу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### фальклёр

**Аддам калекцыю** запісаў фальклёру на кружэлках таму, хто перапіша іх на аўдыёкасэты. Т.: 272-81-98

### футбол

**Усіх беларускіх аматараў футболу** запрашаю наведаць першы футбольны сайт на беларускай мове: www.football-belarus.com. Любіце беларускі футбол!

### net

**"Сьвятая Дуброва — Крыўскі Пяроспар"** — адзіны традыцыяналісцкі ды паганскі рэсурс беларускага сеціва. Запрашаем наведаць бібліятэку й форум. http://www.dubrova.cjb.net

**НАША НІВА** КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

## Паштовая скрынка



**Івану К. зь Менску.** "НН" скептычна ставіцца да тэорыяў Лява Гумілёва, бо яны шарлятанскія і антынавуковыя. Таму тэрміналёгіі, запазычанай з гэтых працаў, "НН" не ўжывае. Абрэвіятуру РБ ужываем рэдка, толькі калі гаворка ідзе канкрэтна пра гэтую васальную дзяржаву.

**Уладзімеру С. з Гомеля.** Не ўва ўсім згодныя з Вашым поглядам на чарнобыльскія праблемы.

**У.П. зь Менску.** Як для навінаў — запозна прыйшло ў рэдакцыю. Як для лістоў у рэдакцыю — замала "аўтара" ў допісе. Таму не друкуем.

**Людміле Г. зь Менску.** Імпрэза, відаць, не была шчодрая на дробязі, цікавыя дляназіраньня. Як інфармацыя ж, такі допіс будзе запатрабаваны толькі газэтамі, што вядуць хроніку літаратурнага жыцьця.

**Махначу Г. зь Менску.** Вашы допісы — яшчэ не рэцэнзіі, а толькі работа над памылкамі. Зайваг шмат, яны слушныя, але ня складзеныя ў цэльны тэкст. Тэма ж выданьняў пра культавую архітэктуру сапраўды вартая рэцэнзіі. Дапрацуйце.

**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**

 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 4627.
Нумар падпісаны ў друк 2.5.2001.
Замова № 2380.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а